● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

30 мая 1996 г.
чацвер, № 134
(22937)

# ЗВЯЗДА

## КАЛЕКТЫВУ МІНСКАГА ТРАКТАРНАГА ЗАВОДА ІМЯ У. І. ЛЕНІНА

Паважаныя трактарабудаўнікі!

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь шчыра і сардэчна віншуе шматтысячны калектыў двойчы ардэнаноснага Мінскага трактарнага завода з пяцідзесяцігоддзем з дня заснавання.

Паўстагоддзя назад на зруйнаванай вайной ускраіне Мінска пачалося будаўніцтва вашага прадпрыемства. Мінула няшмат часу, і народная гаспадарка Беларусі атрымала свой першы айчынны трактар. Гэта была вялікая перамога вашых дапытлівых розумаў, шчырых працавітых рук. А ўсяго з моманту заснавання на вашым рахунку ўжо звыш трох мільёнаў трактароў — такой патрэбнай сучаснай тэхнікі.

На Мінскім трактарным склаўся і сфарміраваўся выдатны працоўны калектыў. І гэта не проста гучныя словы. Толькі людзі, аб'яднаныя высокай канчатковай мэтай, маглі практычна штогод нарошчваць выпуск тэхнікі, удасканальваць і паляпшаць яе вытворчыя якасці. Мінскія трактарабудаўнікі ў прамым сэнсе слова заваявалі сусветны рынак. Трактары «Беларусь» ведаюць сёння ў 85 краінах свету, у тым ліку ў такіх, як Расія і Аргенціна, В'етнам і Егіпет, Італія і Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Пакістан і Сірыя...

Традыцыі шчырай, самаадданай працы, закладзеныя вашымі папярэднікамі, сёння павінны быць развіты і прымножаны. Усе мы жывём у нялёгкі час, аднак верым, што намаганнямі такіх флагманаў вытворчасці, як Мінскі трактарны завод, наша рэспубліка ў рэшце рэшт выйдзе з крызісу, зойме «свой пачэсны пасад між народамі». Мы перакананы: месца мінскіх трактарабудаўнікоў — сярод лепшых калектываў сусветнага машынабудавання.

Жадаем вам, усім пакаленням працаўнікоў Мінскага трактарнага завода, моцнага здароўя, шчасця ў асабістым жыцці, дабрабыту, новых працоўных набыткаў у імя нашай Айчыны.

**ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**
29 мая 1996 г.

## РЫНАК НЕРУХОМАСЦІ Ў ПАЧАТКУ ШЛЯХУ

Учора ў сталіцы краіны адбылося адкрыццё Нацыянальнай канферэнцыі «Нерухомасць Беларусі». Яна была арганізавана па ініцыятыве Беларускай асацыяцыі «Нерухомасць» і падрыхтавана шэрагам міністэрстваў і зацікаўленых камерцыйных структур.

У сваім дакладзе віцэ-прэм'ер Леанід Сініцын асобна падкрэсліў, што развіты рынак нерухомасці можа стаць спрыяльным стымулам для замежных інвестараў. Дзякуючы фарміраванню жыллёвага рынку абавязкова адбудзецца зніжэнне кошту будаўніцтва жылля. Развіццё рынку нерухомасці, паводле сцвярджэння Л. Сініцына, павінна адбывацца на аснове распрацаванай заканадаўчай базы. Пры гэтым крайне важна стварэнне празрыстай (зразумелай усім) сістэмы рэгулявання рынку нерухомасці.

Для абмеркавання ўдзельнікам канферэнцыі прапанаваны праект Канцэпцыі рынку нерухомасці Рэспублікі Беларусь.

У рамках Нацыянальнай канферэнцыі «Нерухомасць Беларусі» працуе выстаўка. На ёй акрамя вядомых камерцыйных структур свае аб'екты і паслугі прапануюць Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта і Мінскі гарвыканкам.

**Сяргей КУРКАЧ.**



## СУВЕРЭННАЯ БЕЛАРУСЬ ЗАЙМЕЛА ЯШЧЭ АДЗІН ПРАДМЕТ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГОНАРУ — ГЕАГРАФІЧНЫ ЦЭНТР КРАІНЫ

**У жыцці кожнага сапраўднага грамадзяніна ёсць рэчы, якія заўжды атаясамліваюцца ў свядомасці з непахіснай веліччу сваёй краіны, гонарам за яе: дзяржаўныя гімн, сцяг, герб. Зрэшты, гэта могуць быць і нейкія іншыя сімвалы або мясціны (Эйфелева вежа ў Парыжы, Біг-Бэн у Лондане і г. д.) — галоўнае, каб яны служылі справе кансалідацыі грамадства на глебе павагі да гісторыі, продкаў, каб абуджалі ў людзях пачуццё духоўнай сувязі паміж даўнінай і сучаснасцю, еднасці як нацыі, каб натхнялі на працу і стварэнне ў імя народа, чалавека. Таму, думаецца, Беларусь можа па праву ганарыцца з нагоды з'яўлення ў яе жыцці і гісторыі яшчэ аднаго менавіта такога сімвала — геаграфічнага цэнтра краіны, афіцыйнае адкрыццё ў гонар якога спецыяльнага геадэзічнага комплексу адбудзецца 31 мая ў Пухавіцкім раёне. Але напачатку — крыху гісторыі.**

Не памылюся, калі скажу, што пытанне, дзе знаходзіцца цэнтр Зямлі (кантынента, краіны і г. д.), пачало цікавіць людзей бадай што з першымі іх падарожжамі далей роднага паселішча. Зрэшты, тады першапраходцы яшчэ не маглі задаволіць сваю цікаўнасць з-за адсутнасці неабходных ведаў. Канкрэтныя спробы вылічыць геаграфічны цэнтр пачаліся значна пазней — недзе ў канцы мінулага стагоддзя, калі шукалі «пуп» Еўропы. Дарэчы, спрэчка аб тым, дзе ён усё ж такі знаходзіцца, працягваецца паміж чэхамі, палякамі і нават літоўцамі і на сённяшні дзень. І справа тут, напэўна, не столькі ў жаданні «прыцягнуць» яго на сваю тэрыторыю (хаця такі аспект, безумоўна, прысутнічае), сколькі з-за надзвычай складанай справы па яго вылічэнню. Пацвярджэннем гэтаму могуць служыць і спробы вылічэння геаграфічнага цэнтра нашай краіны, якія пачаліся некалькі гадоў таму. У выніку ў друку з'явілася інфармацыя, што шукаемае месца знаходзіцца ў Чэрвеньскім раёне.

— Сапраўды, ёсць такі просты спосаб вызначэння цэнтра, — расказвае галоўны інжынер 82-й экспедыцыі Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання Мікалай Бандарук, — калі бярэцца сярэдзіна паміж дзвюма крайнімі кропкамі. Аднак гэты спосаб не дазваляе ўлічваць канфігурацыю тэрыторыі краіны, што можа прывесці да вызначэння, напрыклад, цэнтра Кубы за яе... тэрытарыяльнымі водамі. Каб пазбегнуць гэтай памылкі (ды і наогул, «вывесці» як мага больш дакладныя каардынаты) пры вызначэнні цэнтра Беларусі, наш калектыў паклаў у аснову работы ажно 18 версій падлікаў. У рэшце рэшт мы спыніліся на пяці спосабах, якія, як бы дапаўняючы і перапраўляючы адзін аднаго, дазвалялі вылічыць шукаемы цэнтр з максімальнай дакладнасцю. Частка сферычнай зямной паверхні была пераведзена ў плоскасць геадэзічнымі пераўтварэннямі, з дапамогай буйнамаштабных карт праз кожныя 100—200 метраў знялі каардынаты дзяржаўнай граніцы і ўсе атрыманыя даныя заклалі ў камп'ютэр. У выніку атрымалася, што геаграфічны цэнтр Беларусі знаходзіцца каля вёскі Антонава Навасялкоўскага сельскага Савета Пухавіцкага раёна.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## НЕКАТОРЫЯ ДЭПУТАТЫ ПАРАЎНОЎВАЮЦЬ СЯБЕ З ГЕРАКЛАМІ

Сесія Вярхоўнага Савета Беларусі, якая аднавіла ўчора сваю работу, пачалася з унясення ў парадак дня шэрага новых законапраектаў. Дэпутат Віктар Цярэшчанка, выступаючы ад імя 52 народных выбраннікаў, прапанаваў разгледзець на бягучай сесіі пытанне «Аб праекце Закона «Аб выкананні абавязацельстваў па дзяржаўнай мэтавай пазыцы 1990 года». Як вядома, 78 тысяч нашых суграмадзян, якія ў 1990 годзе аддалі свае зберажэнні, каб потым атрымаць рэальныя тавары, не ўбачылі ў выніку ні грошай, ні жаданых дэфіцытных рэчаў. Учора дэпутаты пайшлі насустрач гэтым людзям і праявілі імкненне ліквідаваць такую несправядлівасць, уключыўшы прапанову ў спіс пытанняў для першачарговага разгляду.

Асабліва шмат спрэчак выклікала прапанова фракцыі «Згода» аб унясенні ў парадак дня сесіі пытання «Аб праекце закона «Аб ўнясенні дапаўненняў і змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь». Нагадаю, што менавіта гэтая прапанова, ініцыятарам якой выступае Прэзідэнт, стала «яблыкам разладу» падчас абмеркавання кандыдатур на пасады суддзяў Канстытуцыйнага суда, выбранне якіх нядаўна адбывалася ў парламенце. Так, згаданыя змяненні Канстытуцыі датычацца парадку прызначэння і выбрання суддзяў Канстытуцыйнага суда, ролі, формы, месца і парадку яго работы. Як адзначыў намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Юрый Малумаў, Канстытуцыйны суд, згодна з папраўкамі, павінен будзе ператварыцца з назіральнага і кантралюючага органа ў орган судовай улады. Аднак прапанова адразу наткнулася на процілеглую пазіцыю большасці парламента. З большай або меншай доляй катэгарычнасці супраць яе выступілі дэпутаты Бухвостаў, Абрамава, Біч, Пінчук, Новак. Па выніках галасавання прапанова так і не атрымала патрэбнай падтрымкі, гэткі ж лёс напаткаў і яшчэ два законапраекты, якія былі непасрэдна звязаны з першым. Тым не менш, пазней гэтае пытанне яшчэ раз будзе ўзнята ў парламенце. Ініцыятарам яго нечакана выступіць Віктар Ганчар, які закліча калег вярнуцца да яго разгляду, паколькі, на яго думку, такімі адносінамі дэпутатаў да ініцыятыў Прэзідэнта будзе створаны прэцэдэнт, на якім

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## УКАЗ

### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 208

### Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання

У мэтах забеспячэння эканамічнай стабільнасці і ўмацавання падатковай дысцыпліны **пастанаўляю:**

1. Для ўдакладнення, уніфікацыі і сістэматызацыі даных, што змяшчаюцца ў дзяржаўных рэестры і рэгістры, правесці ў перыяд з 3 чэрвеня 1996 г. да 1 студзеня 1997 г. агульнарэспубліканскую рэгістрацыю ўсіх юрыдычных асоб, асноўнай мэтай якіх з'яўляецца ажыццяўленне гаспадарчай дзейнасці, і прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы (далей — суб'екты гаспадарання, калі іншае не прадугледжана гэтым Указам).

Агульнарэспубліканскай рэгістрацыі падлягаюць новастварамыя і дзеючыя суб'екты гаспадарання, прычым для новаствараемых суб'ектаў гаспадарання агульнарэспубліканская рэгістрацыя залічваецца ў якасці іх дзяржаўнай рэгістрацыі.

Агульнарэспубліканская рэгістрацыя ажыццяўляецца аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам на падставе дакументаў, прадстаўляемых суб'ектамі гаспадарання ў адпаведнасці з заканадаўствам для дзяржаўнай рэгістрацыі.

Пры ажыццяўленні агульнарэспубліканскай рэгістрацыі плата за рэгістрацыю з раней зарэгістраваных суб'ектаў гаспадарання не бярэцца, за выключэннем выпадкаў унясення пры рэгістрацыі ў іх установчыя дакументы змяненняў, не звязаных са змяненнем заканадаўства.

Дзейнасць суб'ектаў гаспадарання, якія не прайшлі агульнарэспубліканскай рэгістрацыі, забараняецца.

Арганізацыйнае забеспячэнне агульнарэспубліканскай рэгістрацыі і вядзенне адзінай базы даных па дзяржаўных рэестру і рэгістру ўскладаецца на Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь мае права ўстанавіць для асобных катэгорый суб'ектаў гаспадарання скарочаныя тэрміны агульнарэспубліканскай рэгістрацыі.

2. Устанавіць, што:

2.1. Юрыдычныя асобы, асноўнай мэтай якіх з'яўляецца ажыццяўленне гаспадарчай дзейнасці, могуць быць ліквідаваны, а ажыццяўляемая без утварэння юрыдычнай асобы прадпрымальніцкая дзейнасць можа быць спынена, калі адпаведны суб'ект гаспадарання:

не прайшоў агульнарэспубліканскай рэгістрацыі;

ажыццяўляў дзейнасць, якая супярэчыць мэтам яго дзейнасці або не прадугледжаную яго ўстаноўчымі дакументамі, або без належнага дазволу (ліцэнзіі), або забароненую заканадаўствам, або іншую дзейнасць з парушэннем заканадаўства;

утойваў (заніжаў) прыбытак (даходы) і іншыя аб'екты падаткаабкладання на працягу 12 месяцаў, якія папярэднічаюць дню накіравання прадстаўлення аб спыненні яго дзейнасці ў адпаведны выканаўчы камітэт;

не прадставіў статыстычнай і іншай абавязковай справаздачнасці ва ўстаноўлены заканадаўствам тэрмін;

перашкаджаў доступу ўпаўнаважаных службовых асоб у памяшканні, што выкарыстоўваюцца ім для ажыццяўлення сваёй дзейнасці;

не меў руху сродкаў на банкаўскіх рахунках на працягу 6 месяцаў, якія папярэднічаюць дню накіравання прадстаўлення аб спыненні яго дзейнасці ў адпаведны выканаўчы камітэт;

не ажыццяўляў гаспадарчай дзейнасці (віду гаспадарчай дзейнасці, прадугледжанага ўстаноўчымі дакументамі) больш як 6 месяцаў, што папярэднічаюць дню накіравання прадстаўлення аб спыненні яго дзейнасці ў адпаведны выканаўчы камітэт;

дапусціў стратную дзейнасць па выніках фінансавага года;

не сфарміраваў статутнага фонду ва ўстаноўлены заканадаўствам тэрмін або не меў на працягу 6 месяцаў, якія папярэднічаюць дню накіравання прадстаўлення аб спыненні яго дзейнасці ў адпаведны выканаўчы камітэт, маёмасці, кошт якой не менш памеру статутнага фонду гэтага суб'екта гаспадарання (для юрыдычных асоб);

не забяспечыў размяшчэння сваіх органаў кіравання, а таксама дакументаў бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці па юрыдычнаму адрасу;

2.2. Пры наяўнасці падстаў для ліквідацыі (спынення дзейнасці) суб'екта гаспадарання, указаных у падпункце 2.1 гэтага пункта, дзяржаўныя падатковыя інспекцыі, тэрытарыяльныя органы дзяржаўнай статыстыкі, органы Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнай бяспекі і ўнутраных спраў, іншыя дзяржаўныя кантрольныя і праваахоўныя органы накіроўваюць у адпаведны выканаўчы камітэт прадстаўленне аб спыненні дзейнасці такога суб'екта гаспадарання;

2.3. На падставе прадстаўлення аб спыненні дзейнасці суб'екта гаспадарання адпаведны выканаўчы камітэт бярэ з суб'екта гаспадарання пісьмовае абавязацельства аб устараненні прычын, што выклікалі накіраванне прадстаўлення аб спыненні яго дзейнасці, або прымае рашэнне аб ліквідацыі юрыдычнай асобы, асноўнай мэтай якой з'яўляецца ажыццяўленне гаспадарчай дзейнасці, або аб спыненні прадпрымальніцкай дзейнасці, што ажыццяўляецца без утварэння юрыдычнай асобы;

2.4. Парадак накіравання і разгляду прадстаўленняў аб спыненні дзейнасці суб'екта гаспадарання вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

2.5. У выпадку змянення памеру і парадку фарміравання статутнага фонду, месцазнаходжання, саставу ўласнікаў (заснавальнікаў, удзельнікаў) юрыдычнай асобы — суб'екта гаспадарання яго службовыя асобы і (або) уласнікі (заснавальнікі, удзельнікі) абавязаны ў месячны тэрмін з дня ўзнікнення ўказаных абставінаў прадставіць па месцы дзяржаўнай рэгістрацыі гэтай асобы ўсе неабходныя дакументы для ўнясення адпаведных змяненняў і (або) дапаўненняў у яго ўстаноўчыя дакументы.

Змяненне саставу ўласнікаў (заснавальнікаў, удзельнікаў) юрыдычнай асобы — суб'екта гаспадарання прызнаецца сапраўдным толькі пасля дзяржаўнай рэгістрацыі адпаведных змяненняў ва ўстаноўчых дакументах.

Здзелкі, заключаныя пасля ўступлення ў сілу гэтага падпункта без захавання выкладзеных у ім патрабаванняў, з'яўляюцца супярэчачымі інтарэсам дзяржавы і прыводзяць да вынікаў, прадугледжаных артыкулам 51 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь;

2.6. Уласнікам (заснавальнікам, удзельнікам) ліквідаваных юрыдычных асоб — суб'ектаў гаспадарання, якія маюць запазычанасць па плацяжах у бюджэт і дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды, на працягу тэрміну, устаноўленага Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, забараняецца выступаць у якасці ўласнікаў (заснавальнікаў, удзельнікаў) новаствараемых юрыдычных асоб — суб'ектаў гаспадарання і ажыццяўляць прадпрымальніцкую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы;

2.7. Юрыдычныя і фізічныя асобы — нерэзідэнты Рэспублікі Беларусь, якія адкрылі рахункі ў банках Рэспублікі Беларусь, штомесяц прадстаўляюць у дзяржаўныя падатковыя інспекцыі па месцы рэгістрацыі завераныя аўдытарам дэкларацыі аб даходах па форме, зацверджанай Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Закрыццё ўказаных рахункаў праводзіцца толькі пасля прад'яўлення ў Галоўную дзяржаўную падатковую інспекцыю пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь канчатковай дэкларацыі аб атрыманых даходах.

3. Увесці экспертную ацэнку ўкладаў (акрамя ўкладаў у беларускіх рублях) у статутныя фонды ўсіх юрыдычных асоб — суб'ектаў гаспадарання, у тым ліку прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі, парадак правядзення якой вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Ускласці на дзяржаўныя падатковыя інспекцыі кантроль за захаваннем юрыдычнымі асобамі — суб'ектамі гаспадарання парадку фарміравання статутнага фонду.

5. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

5.1. Устанавіць парадак правядзення агульнарэспубліканскай рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання;

5.2. У двухмесячны тэрмін:

5.2.1. Прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы па:

узмацненню эканамічнай, адміністрацыйнай, крымінальнай і іншай адказнасці юрыдычных і фізічных асоб за няўплату падаткаў і збораў у бюджэт і дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды;

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## АБ НЕКАТОРЫХ МЕРАХ ПА ЎПАРАДКАВАННЮ ДЗЕЙНАСЦІ СУБ'ЕКТАЎ ГАСПАДАРАННЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

вызначэнню парадку ажыццяўлення гаспадарчай дзейнасці асобамі, якія не з'яўляюцца суб'ектамі гаспадарання;

рэгуляванню колькасці юрыдычных асоб, заснаваных на недзяржаўных формах уласнасці, якія ажыццяўляюць гандлёва-пасрэдніцкую дзейнасць;

унясенню змяненняў і дапаўненняў у законы ў сувязі з прыняццем гэтага Указа;

5.2.2. Зацвердзіць:

парадак накіравання і разгляду прадстаўленняў аб спыненні дзейнасці суб'ектаў гаспадарання;

парадак правядзення экспертнай ацэнкі ўкладаў у статутныя фонды юрыдычных асоб — суб'ектаў гаспадарання;

палажэнне аб ліквідацыі юрыдычных асоб і спыненні прадпрымальніцкай дзейнасці, якая ажыццяўляецца без утварэння юрыдычнай асобы, у тым ліку па рашэнню выканаўчых камітэтаў;

5.3. вызначыць парадак уліку ўласнікаў (заснавальнікаў, удзельнікаў) ліквідаваных юрыдычных асоб — суб'ектаў гаспадарання, якія мелі запазычанасць па плацяжах у бюджэт і дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды, а таксама ўстанавіць тэрмін, на працягу якога ім забараняецца выступаць у якасці ўласнікаў (заснавальнікаў, удзельнікаў) ноastvaraemых — 

5.4. Устанавіць мінімальныя памеры статутных фондаў юрыдычных асоб — суб'ектаў гаспадарання, якім такія памеры не ўстаноўлены іншымі актамі заканадаўства;

5.5. Вызваліць выканаўчыя камітэты ад выплаты дзяржаўнай пошліны па іках аб ліквідацыі юрыдычных асоб — суб'ектаў гаспадарання і спыненні прадпрымальніцкай дзейнасці, якая ажыццяўляецца без утварэння юрыдычнай асобы;

5.6. Забяспечыць прывядзенне рашэнняў урада Рэспублікі Беларусь і падведамных яму дзяржаўных органаў у адпаведнасць з гэтым Указам.

6. Міністэрству эканомікі, Міністэрству фінансаў, Міністэрству статыстыкі і аналізу, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому ўвесці сістэму статыстычнай справаздачнасці, што дазваляла б праводзіць аналіз эфектыўнасці фінансавай і іншай гаспадарчай дзейнасці ўсіх суб'ектаў гаспадарання.

7. Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць публікацыю ў газеце «Советская Белоруссия» спісаў суб'ектаў гаспадарання, якія не прайшлі агульнарэспубліканскай рэгістрацыі, а таксама ліквідуемых у адпаведнасці з гэтым Указам.

8. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання, акрамя падпунктаў 2.1. — 2.4, 2.6 пункта 2 і пункта 3, якія ўводзяцца ў дзеянне з дня ўступлення ў сілу адпаведных актаў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

24 мая 1996 г., г. Мінск.

## НЕКАТОРЫЯ ДЭПУТАТЫ ПАРАЎНОЎВАЮЦЬ СЯБЕ З ГЕРАКЛАМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

потым будуць спекуляваць палітычныя апаненты Вярхоўнага Савета, а самі пытанні могуць быць у выніку вынесены на рэферэндум. Ганчара падтрымаў лідэр камуністаў Сяргей Калякін. Але цалкам парламент так і не вярнуўся да перагляду ранейшага рашэння.

Учора дэпутаты далі назву новаму населенаму пункту, які ўзнік на тэрыторыі вайсковага гарадка ў Аршанскім раёне Віцебскай вобласці — пасёлак Балбасава. Уключылі ў парадак дня сесіі парламентарыі і законапраект, які датычыцца паправак і змяненняў у законы аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых Саветаў, а таксама ў шэраг іншых законаў, якія вынікаюць з папярэдніх. Гэта абумоўлена тым, што на восень бягучага года запланаваны дадатковыя паўторныя выбары ў парламент і ў мясцовыя Саветы па тых акругах, прадстаўнікоў якіх так і няма ў прадстаўнічых органах улады.

Пастановай Вярхоўнага Савета была зацверджана камісія па расследаванню акалічнасцей затрымання дэпутата Знаўца. Яе кіраўніком прызначаны Мечаслаў Грыб, а вынікі работы камісіі павінны быць прадстаўлены да 1 ліпеня 1996 года. Дарэчы, Вярхоўны Савет даручыў Пракуратуры Беларусі аказваць усялякае садзейнічанне рабоце камісіі. Астатнюю частку першай паловы дня парламент прысвяціў разгляду паправак і дапаўненняў у Закон «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь».

Дарэчы, у «Розным» учора прагучалі толькі тры выступленні. Павел Знавец звярнуўся да камісіі па правах чалавека па прычыне асуджэння нейкага Ламаносава, які, па некаторых сцвярджэннях, асуджаны на 15 гадоў турмы за забойства, якога на самай справе не ўчыняў. Сп. Бухвостаў у чарговы раз запатрабаваў ад парламента прыняць заканадаўчы акт, які б надаў заработнай плаце статус першачарговага плацяжу. Асобна патрэбна адзначыць выступленне Валерыя Шчукіна, які моцна абурыўся словамі Анатоля Лябедзькі. Як вядома, некалькі дзён таму парламентарый прапанаваў Вярхоўнаму Савету распусціцца па прычыне бяздзейнасці. Дэпутат Шчукін абвінаваціў Лябедзьку ў бяздзейнасці старога парламента, дзе той быў дэпутатам, назваў парламент «Аўгіевымі канюшнямі», якія нібыта «загадзілі» дэпутаты старога склікання і якія нібыта новым дэпутатам сёння прыходзіцца прыбіраць, падобна Гераклу. Да таго ж у віну Лябедзьку было пастаўлена выбіванне «пад сябе» пасады намесніка старшыні камісіі па міжнародных справах. Дарэчы, падобная эмацыянальная перапалка ўжо не аднойчы ўзнікала паміж гэтымі дэпутатамі розных палітычных поглядаў. Да таго ж выказванні Шчукіна ў гэтым сэнсе часта прымушаюць насцярожвацца членаў камісіі па дэпутацкай этыцы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## МТЗ СПРАЎЛЯЕ «ЗАЛАТЫ» ЮБІЛЕЙ

**29 мая вядучаму прадпрыемству рэспублікі па вырабу універсальна-абганяльных колавых трактароў «Беларусь» — Мінскаму трактарнаму заводу споўнілася 50 гадоў.**

Захаваўся гістарычны дакумент — пастанова Савета Міністраў СССР № 1142 аб будаўніцтве МТЗ. Ён быў арганізаваны на базе Мінскага авіяцыйнага завода. Першапачаткова праектная магутнасць разлічвалася на выпуск 50 гусенічных сельскагаспадарчых трактароў «КД-35» у суткі. Першая іх серыйная партыя была выраблена ў 1950 годзе. Са жніўня 1951 года прадпрыемства перайшло на выпуск тралёвачных машын. А ў перыяд з 1948 па 1953 год канструктарамі быў створаны універсальны колавы трактар, названы ў гонар нашай рэспублікі «Беларусь».

Як вядома, адлік трактароў сямейства маркі «Беларусь» быў пачаты 14 кастрычніка 1953 года. А гаспадаром адной з першых на Беларусі машын стаў механізатар калгаса «Бальшавік» Капыльскага раёна Савелій Навуменка. Адпрацаваўшы ў гэтай гаспадарцы 18 гадоў, пасля рэстаўрацыі «Беларусь» МТЗ-2 заняў ганаровае месца на пастаменце перад прахадной завода.

А 8 чэрвеня 1995 года з галоўнага канвеера сышоў ужо трохмільённы трактар. Ім стаў «МТЗ-920». Цяпер, па словах генеральнага дырэктара завода Міхаіла Лявонава, гэтая мадэль таксама рыхтуецца для ўстаноўкі на п'едэстал каля цэнтральнай прахадной прадпрыемства.

Усяго за апошнія гады трактаразаводцамі было распрацавана і ўкаранёна ў вытворчасць 12 мадэляў трактароў, аўтобусы для работы ў шахтах, машыны для камунальнай і лясной гаспадаркі, 7 мадэляў малагабарытных трактароў і мотаблокаў. На сённяшні дзень прадукцыя МТЗ пастаўляецца больш чым у 70 краін свету. За працоўныя поспехі завод узнагароджаны ордэнам Леніна і ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Сёння ў трактарнага юбілей, але ўрачыстасці з нагоды гэтай даты пачнуцца ў 9 гадзін раніцы 31 мая. Гэты дзень аб'яўлены на прадпрыемстве нерабочым. Як плануецца, на плошчы перад будынкам заводакіраўніцтва пройдзе святочны канцэрт, у якім прымуць удзел тэатр эстрадных мініяцюр «Карусель» ДК МТЗ, харавая капэла і фальклорны ансамбль «Вербніца», ансамблі танца «Лянок» і «Лявоніха» і многія іншыя самадзейныя і прафесіянальныя калектывы.

Чакаецца і ўдзел ва ўрачыстасцях кіраўнікоў нашай рэспублікі, гасцей з Расіі і Украіны, прадстаўнікоў вучоных Беларусі і краін СНД, а таксама замежных фірмаў.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ РАБОТНІКАЎ ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «МІНСКІ ТРАКТАРНЫ ЗАВОД ІМЯ У.І.ЛЕНІНА» І СУМЕЖНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За значны ўклад у развіццё сельскагаспадарчага машынабудавання і ў сувязі з паўвекавым юбілеем вытворчага аб'яднання «Мінскі трактарны завод імя У.І.Леніна» ўзнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**Адамовіча** Генадзя Паўлавіча — кантралёра-трактарыста-выпрабавальніка цэха кантролю трактароў.

**Аксёнава** Альфрэда Пятровіча — начальніка канструктарскага бюро аддзела механізацыі і аўтаматызацыі.

**Аляксандрава** Мікалая Аляксандравіча — расточніка Віцебскага завода трактарных запасных частак.

**Аўчыннікава** Пятра Васільевіча — мантажніка цепласілавога цэха.

**Багдановіча** Мікалая Андрэевіча — токара механічнага цэха № 7.

**Бахметава** Аляксандра Пятровіча — слесара-інструментальшчыка механічнага цэха № 5.

**Вайцяхоўскага** Уладзіміра Іванавіча — слесара чыгуначнага цэха.

**Воўчака** Станіслава Міхайлавіча — наладчыка кавальскага цэха.

**Гайдука** Аляксандра Дзмітрыевіча — прараба жыллёва-камунальнага аддзела.

**Гайлову** Таццяну Мікалаеўну — начальніка бюро аддзела аўтаматызаваных сістэм кіравання.

**Геца** Уладзіміра Васільевіча — старшага майстра механічнага цэха № 2.

**Гінько** Яўгена Альбертавіча — галоўнага дыспетчара вытворча-дыспетчарскага аддзела.

**Гусева** Валерыя Іванавіча — начальніка цэха рамонту будынкаў і добраўпарадкавання.

**Еўтуховіча** Анатоля Сяргеевіча — брыгадзіра муляраў рамонтна-будаўнічага цэха.

**Зеляноўскую** Надзею Іванаўну — электраманцёра электра-рамонтнага цэха.

**Канаша** Уладзіміра Пятровіча — слесара-рамонтніка ліцейнага цэха № 1.

**Касцюкевіча** Анатоля Аляксандравіча — брыгадзіра слесараў-рамонтнікаў прэсавага цэха.

**Кошкіна** Івана Цярэнцьевіча — абрубшчыка фасоннага ліцця ліцейнага цэха № 3.

**Лопіча** Леаніда Андрэевіча — мантажніка сантэхсістэм і абсталявання цеплаcілавога цэха Смаргонскага агрэгатнага завода.

**Маймусава** Уладзіслава Андрэевіча — начальніка механазборачнага цэха № 3.

**Майсіновіча** Пятра Пятровіча — намесніка начальніка аддзела тэхнічнага кантролю.

**Малахвейчука** Уладзіміра Уладзіміравіча — трактарыста цэха апрацоўкі і афарбоўкі трактароў.

**Марцінчыка** Уладзіміра Мікалаевіча — брыгадзіра тэрмістаў тэрмічнага цэха.

**Маторына** Яўгена Лявонавіча — слесара-інструментальшчыка цэха прыстасаванняў і прэс-форм.

**Навуменку** Пятра Якаўлевіча — слесара механазборачных работ корпуса зборкі трактароў.

**Панамарова** Анатоля Міхайлавіча — электраманцёра-рамонтніка рамонтна-механічнага цэха.

**Папругу** Міхаіла Сцяпанавіча — вадзіцеля-выпрабавальніка эксперыментальнага цэха.

**Пастушэнку** Анатоля Іванавіча — токара-расточніка механічнага цэха № 1.

**Патапейку** Віктара Герасімавіча — начальніка чыгуначнага цэха.

**Петрыкевіча** Віктара Міхайлавіча — грузчыка цэха кансервацыі і ўпакоўкі.

**Пыжа** Аляксандра Іларыёнавіча — начальніка бюро аддзела галоўнага тэхнолага.

**Пятроўскага** Аляксандра Уладзіміравіча — намесніка генеральнага дырэктара — дырэктара механазборачнай вытворчасці.

**Радзюкевіча** Івана Браніслававіча — выбівальшчыка адлівак ліцейнага цэха № 2.

**Рамановіча** Віктара Аркадзьевіча — слесара-інструментальшчыка цэха кабін.

**Раманоўскага** Канстанціна Іосіфавіча — старшага майстра цэха № 96 механічнай вытворчасці.

**Садоўскага** Валерыя Уладзіміравіча — намесніка генеральнага дырэктара па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню і камплектацыі.

**Салавова** Леаніда Цімафеевіча — галоўнага механіка аддзела галоўнага механіка.

**Салаўёва** Міхаіла Мікалаевіча — брыгадзіра наждачнікаў цэха дакладнага стальнога ліцця.

**Самусевіча** Аляксандра Рыгоравіча — электраманцёра па рамонту і абслугоўванню электраабсталявання Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў.

**Селяву** Вячаслава Аляксандравіча — фрэзероўшчыка цэха тэхналагічнага абсталявання.

**Семак** Лену Ізраілаўну — інжынера па падрыхтоўцы вытворчасці другой катэгорыі вытворча-дыспетчарскага аддзела.

**Сіталу** Мікалая Сцяпанавіча — намесніка дырэктара па вытворчасці Мінскага завода спецыяльнага інструменту і тэхналагічнай аснасткі.

**Тарановіча** Расціслава Мікалаевіча — начальніка цэха апрацоўкі і афарбоўкі трактароў.

**Хадасевіча** Івана Іванавіча — наладчыка механічнага цэха № 4.

**Чурко** Альфрэда Пятровіча — начальніка канструктарскага бюро аддзела галоўнага металурга.

**Шакіна** Генадзя Іванавіча — слесара-рамонтніка сталеліцейнага цэха.

**Шкробата** Мікалая Васільевіча — вадзіцеля аўтамабіля транспартнага цэха.

**Шыянаву** Любоў Аляксандраўну — вядучага інжынера-канструктара аддзела галоўнага энергетыка.

**Юркавец** Ніну Іванаўну — начальніка тэхнічнага бюро аддзела ўкаранення і эксплуатацыі абсталявання з лічбавым праграмным кіраваннем і прамысловых робатаў.

**Янчэўскага** Эдуарда Герасімавіча — намесніка начальніка галоўнага спецыялізаванага канструктарскага бюро.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**С. ШАРЭЦКІ**

14 мая 1996 г., г. Мінск
№283—XIII

## СУВЕРЭННАЯ БЕЛАРУСЬ ЗАЙМЕЛА ЯШЧЭ АДЗІН ПРАДМЕТ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГОНАРУ — ГЕАГРАФІЧНЫ ЦЭНТР КРАІНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Напэўна, не адзін чалавек, чытаючы гэтыя радкі, ужо задаўся пытаннем: а якая карысць ад гэтага адкрыцця?

Адказаць на яго карэспандэнт «Звязды» папрасіў галоўнага інжынера Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання Вацлава Мінько.

— Па-першае, адкрыццё месцазнаходжання цэнтра — гэта проста пазнавальна, — расказвае Вацлаў Юльянавіч. — Па-другое, гэтая падзея нясе значны прыкладны інтарэс, напрыклад, для арганізацыі турызму. Геаграфічны цэнтр, які мае дакладныя каардынаты, можа і павінен стаць «пунктам адліку» пры правядзенні зямельных вылічэнняў, удакладненні граніц, падліку плошчаў, складанні карт і г. д.

На думку кіраўніка гаспадарчаразліковага цэнтра навукова-тэхнічных і вытворчых паслуг «Аэрагеакарт» Уладзіміра Мкртчана (дарэчы, гэтая фірма выканала матэрыяльнае і тэхнічнае забеспячэнне ўсіх неабходных работ), каштоўнасць гэтага месца куды большая ў якасці своеасаблівага сімвала яднання грамадства, ды і народа. Не выпадкова, падкрэсліў Уладзімір Ваганавіч, над вылічэннем геаграфічнага цэнтра Беларусі працавалі прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей. Думаецца, гэта слушнае ў многім меркаванне нядрэнна было б узяць на «ўзбраенне» нашаму ўраду.

Дарэчы, прапаноў тут можа быць мноства — ад выпуску паштовых марак і паштовак да арганізацыі турызму. Усё гэта будзе, але нават зараз можна сцвярджаць аб неабходнасці папулярызацыі гэтага месца. Каб гэтая кропка на зямной паверхні была не толькі цэнтрам у геаграфічным разуменні.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПРЭЗІДЭНТ КАНТРАЛЮЕ ВЫПЛАТУ ЗАРПЛАТЫ

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які праходзіць па рэкамендацыі ўрачоў комплекс аздараўленчых працэдур, 28 мая быў праінфармаваны аб ходзе выканання яго патрабаванняў, выказаных на нарадзе вышэйшых службовых асоб рэспублікі 25 мая 1996 года.

На пяцігадзіннай нарадзе разглядаліся пытанні стабілізацыі эканомікі, фінансава-крэдытнай палітыкі, выканання бюджэту, своечасовасці выплаты зарплаты і пенсій насельніцтву.

Кіраўнік дзяржавы запатрабаваў і даў адпаведныя даручэнні ўраду, Нацыянальнаму банку да канца чэрвеня ўвайсці ў графік своечасовай выплаты зарплаты ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі, не зніжаць фінансаванне сацыяльных праграм і ўвесці персанальную адказнасць кіраўнікоў усіх узроўняў за нявыплату падаткаў суб'ектамі гаспадарання.

**БЕЛТА.**

## ЯК МЯРКУЕЦЦА, БЕЛАРУСКІ СПІКЕР ПРЫМЕ ЎДЗЕЛ У КАНФЕРЭНЦЫІ КІРАЎНІКОЎ ЗАКАНАДАЎЧЫХ ОРГАНАЎ ЕЎРОПЫ

Па папярэдніх звестках, 6 чэрвеня Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, яго памочнік Уладзімір Улаховіч, начальнік Сакратарыята ВС Іосіф Сідаровіч і старшыня Камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах Уладзімір Башарымаў адправяцца ў Венгрыю. 7—9 чэрвеня там пройдзе чарговая Еўрапейская канферэнцыя з удзелам спікераў еўрапейскіх дзяржаў, якая праводзіцца раз у два гады. Па словах памочніка старшыні ВС У. Улаховіча, на парадку дня форуму значацца тры пытанні. Мяркуецца, што ў рамках будучага абмеркавання першага з іх — аб ролі парламентаў у стварэнні і падтрыманні дэмакратыі ва ўмовах рыначнай эканомікі — выступіць Сямён Шарэцкі. Удзельнікі канферэнцыі абмяркуюць таксама ролю еўрапейскіх парламентаў у ажыццяўленні сацыяльнай палітыкі ва ўмовах рыначнай эканомікі, праблемы еўрапейскай інтэграцыі і супрацоўніцтва нацыянальных парламентаў.

У плане візіту беларускай дэлегацыі — сустрэчы Сямёна Шарэцкага са старшынямі Еўрапарламента, Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, маршалкам сейма Польшчы і прадстаўнікамі заканадаўчых органаў іншых краін Еўропы.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН.**

## СЯЎБА ПРАЙШЛА СПАКОЙНА ЯК НІКОЛІ

**Нягледзячы на тое, што сёлета веснавыя работы пачаліся са спазненнем, тэмпы іх завяршэння нават пераўзышлі мінулагоднія паказчыкі.**

Як паведамілі карэспандэнту газеты ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, гэтаму спрыяла найперш надвор'е, а таксама тыя меры, што былі прыняты ўрадам для паспяховага правядзення сяўбы. У прыватнасці, дзякуючы своечасоваму выдзяленню таварнага крэдыту ў выглядзе паліва сёлета не ўзнікала праблем з забеспячэннем гаспадарак гаруча-змазачнымі матэрыяламі. Болей, чым у мінулыя гады, было назапашана да яравой сяўбы, напрыклад, і мінеральных угнаенняў, што дазволіла апрацаваць імі значна большыя плошчы ўгоддзяў.

Усяго ж, па апошніх даных міністэрства, у гаспадарках краіны ўжо пасеяны яравыя на плошчы 2 млн. 360 тыс. гектараў (з планавых 2 млн. 415 тыс.). Заняць агароднінай засталося апошнія 4 тысячы гектараў — у асноўным расаднымі (капустай, памідорамі), якія высаджваюцца ў адкрыты грунт. Практычна завершана пасадка бульбы — гэтая культура ўжо заняла сваё «пачэснае месца» на 114 тыс. гектараў. Пасля ўборкі азімых на зялёны корм калгасы і саўгасы паспелі правесці і сяўбу аднагадовых траў. Надвор'е паспрыяла таксама больш ранняй нарыхтоўцы травяных кармоў — па апошніх звестках, іх ужо маецца ў «актыве» больш, чым у мінулым годзе на гэты перыяд. Усе вобласці пачалі нарыхтоўку сена. Да таго ж працягваецца догляд за пасевамі бульбы, лёну, караняплодаў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПІКЕТЫ НЕ З'ЯВІЛІСЯ...

Наша газета паведамляла, што з учарашняга дня прадстаўнікі Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі мелі намер распачаць пікетаванне будынка Вярхоўнага Савета, каб паўплываць на парламент з мэтай прыняцця ім закона аб наданні заработнай плаце статусу першачарговага плацяжу.

Пікеты, аднак, не з'явіліся. Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў, напярэдадні Мінгарвыканком прыняў рашэнне, згодна з якім пікеты былі прыраўнаваны да іншых масавых акцый пратэсту. Адпаведна, зараз для іх правядзення таксама патрабуецца дазвол гарадскіх уладаў. Каб пазбегнуць у гэтай сітуацыі эксцэсаў, прафсаюзы вырашылі 29 мая на плошчу Незалежнасці не выходзіць. Разам з тым пытанне аб адмене пікетавання Вярхоўнага Савета не здымаецца — у гарвыканком будзе пададзена патрэбная заяўка.

**Сяргей ГРЫБ.**

МІНІ-АПЫТАННЕ

# НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ ІНШЫ РАЗ ПРАЯЎЛЯЕ ЗАЙЗДРОСНУЮ ЗАКОНАПАСЛУХМЯНАСЦЬ

**Для многіх сёння дзіўны факт, што наша насельніцтва да гэтага часу плаціць за кватэру. Плацяць не ўсе, але большасць. Са спазненнем і не поўнасцю. Адмаўляючы сабе і дзецям у многім.**

**У гэтым мы пераканаліся, правёўшы міні-апытанне на вуліцах Мінска. (Мы хацелі не толькі атрымаць адказ на пытанне «Ці плаціце вы за кватэру?», але і пачуць каментарыі. Людзі з гатоўнасцю адказвалі на пытанні, але іх, чамусьці, бянтэжыла просьба прадставіцца. Таму, каб пазбегнуць стандартнага «Іванова Івана Іванавіча» і прэтэндаваць на поўную шчырасць, мы абмежаваліся толькі высвятленнем месца работы нашых суразмоўцаў.**

***Аляксандр ЛАПАЦІН, будаўнік** (г. Мінск):*

— Вядома, плацім. Іншы раз затрымліваем аплату на месяц-другі, што звязана з нявыплатай зарплаты, але потым плацім за ўсё. Кватэра ў нас маленькая, набягае не вельмі многа.

***Пенсіянеры, якія адпачываюць на лаўцы ў парку імя Горкага:***

— Як жа! Плацім. Абавязкова кожны месяц. Калі адзін месяц, не дай Бог, не зможаш заплаціць, купіш што-небудзь, то потым гэты доўг ніколі не аплаціць нават з абедзвюх нашых пенсій. Не, плаціць можна, але што ж тады будзем есці?

***Рабочы Мінскага завода «Калібр»:***

— Як толькі рахунак атрымліваем, дык адразу аплачваем. Сям'я ў нас вялікая, чатыры чалавекі працуюць, так што хтосьці ды атрымае зарплату своечасова. Мы за ўсё жыццё прывучаныя аплачваць кватэру і лепш адмовімся ад чагосьці. А ў параўнанні з грашамі, якія наша сям'я траціць на харчаванне, кватэрплата яшчэ нармальная (?).

Прыкладна такія ж адказы былі атрыманы ад двух рабочых МАЗа, ад галоўнага ўрача шпіталя, **ад адзінокай пенсіянеркі, ад выхавальніцы дзіцячага садка.** І вось, нарэшце, пашанцавала — чарговы апытваемы ўнёс нейкія адценні ў гэтую амаль ідылічную карціну.

***Намеснік начальніка цэха, Мінскі трактарны завод:***

— Плацім ад выпадку да выпадку і не поўнасцю, а дзесьці дзве трэці, таму што завод амаль не працуе, а мая праца аплачваецца адпаведна. Наш доўг ужо пераваліў за 1 мільён рублёў, але пагасіць яго не магу — трэба карміць сям'ю. Можа летам удасца аплачваць поўнасцю, няма ж ацяплення, і месяц, а то і больш, не будзе гарачай вады.

***Матыў у супрацоўніка міліцыі плаціць толькі палову кватэрплаты іншы:***

— За кватэру плачу своечасова, але толькі палову — згодна з Законам аб міліцыі, правамоцнасць якога была пацверджана Канстытуцыйным судом.

Выявіць у час апытання хоць аднаго злоснага неплацельшчыка не ўдалося. Ці дзень такі «няўдалы», ці людзі не заўсёды шчырыя ў такім далікатным пытанні.

**Амаль што сумленных плацельшчыкаў кватэрплаты распытвала Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**



ФОТАСЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Калі цемра хавае дарогі —*
*Руш на голас старых званоў*
*Праз хлуснёю зарослыя логі,*
*Праз атруту сівых туманоў.*
*Там, за прывідным небасхілам,*
*На забытых усімі кладах*
*Спіць твой прашчур — сівы асілак,*
*Прыціскаючы меч на грудзях.*
*Спяць дзяды, што не прынялі здрады,*
*Гналі пошасць на захад і ўсход,*
*Што за волю йшлі на барыкады,*
*Што за долю йшлі на эшафот.*
*Сыдуць прэч сляпата і знямога*
*Як кранешся святых крыжоў*

.........................................

*Калі цемра хавае дарогу —*
*Кроч на покліч старых званоў.*

ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

# НАРЭШЦЕ БЛІСНУЛА НАДЗЕЯ...

На ўсіх нарадах, якія праводзіліся Гомельскім аблвыканкомам па пытаннях работы прамысловых прадпрыемстваў у другой палове мінулага года і першым квартале сёлетняга, пра мясцовы завод «Эмальпосуд», які ўваходзіць у канцэрн «Белмясцпром», даводзілася чуць адно і тое ж: ён — на грані банкруцтва. А прадпрыемства пачало кульгаць на абедзве нагі ў пачатку 1995 года і, даклыпаўшы, як кажуць, на мыліцах да красавіка, зусім спынілася, забуксавала.

Прычыны былі даволі празаічнымі і важкімі: велізарныя падаткі на энерганосьбіты, шалёныя цэны на сыравіну і матэрыялы, якія закупляліся ў Расіі і на Украіне, і адпаведна гэтаму моцнае падаражанне прадукцыі завода пры нізкай пакупніцкай здольнасці спажыўцоў яе. У выніку прадпрыемства пазбавілася абаротных сродкаў, што і прывяло яго да вытворчай драмы — яно «села» на сумна вядомую картатэку, што пацвярджаецца наступнай лічбай: па стану на 1 лютага 1996 года завод меў ажно дванаццаць мільярдаў даўгоў.

Гэта неплацяжы за падаткі, энерганосьбіты і няпоўныя разлікі з пастаўшчыкамі сыравіны і матэрыялаў за мінулы год.

А ўзяць заработную плату. Па стану на тое ж чысло па некаторых структурных падраздзяленнях яна не была аддадзена працаўнікам прадпрыемства ажно з красавіка 1995 года. Таму гаварыць аб настроі людзей не даводзілася. Дастаткова толькі сказаць, што за мінулы год з завода звольнілася каля адной трэці яго колькаснага саставу.

У той сітуацыі кіраўнікі прадпрыемства і вобласці білі трывогу: патрэбна дапамога вышэйстаячых сталічных інстанцый, бо без яе калектыў не выжыве, не паднімецца на ногі. А там, у Мінску, яго нацэльвалі на так званыя дадатковыя ўнутраныя рэзервы. Толькі ўсё дарэмна: тыя рэзервы пры агульным эканамічным крызісе ў сістэме былі амаль неадчувальнымі. І тады, калі ўжо не было ніякай надзеі на выратаванне прадпрыемства, ва ўвесь рост, як гаворыцца, было пастаўлена пытанне: а ці патрэбна яно наогул? Можа, выгадней яго закрыць і ўвозіць аналагічную прадукцыю аднекуль з-за мяжы?

Тут трэба зазначыць, што завод вырабляе сталёвы эмаліраваны посуд і сантэхнічныя вырабы (чашы «Генуя», эмаліраваныя мыйкі, душавыя паддоны і да т. п.), якія ў рэспубліцы амаль ніхто не выпускае. Спажыўцамі яе з'яўляюцца як насельніцтва нашай краіны і будаўнікі, так і ў блізкім замежжы на гэтыя тавары маецца попыт. Гэта з аднаго боку. З другога ж атрымалася так, што ў сувязі з закрыццём асноўнай вытворчасці на рынкі краіны пачаў паступаць посуд з іншых краін, і з Беларусі пацяклі туды грошы за яго. А калі прадпрыемства ліквідуецца, той паток грошай за мяжу стане яшчэ большым пры адначасовым папаўненні арміі беспрацоўных у Беларусі (зараз на заводзе працуе каля дзевяцісот чалавек).

Вось такія выкладкі сёлета ў сакавіку нарэшце былі ўзважаны ў Кабінеце Міністраў. І было прынята адзіна правільнае рашэнне (праўда, са значным спазненнем): дапамагчы заводу, які, нягледзячы на ўсе цяжкасці і складанасці, усё ж верыў у сваю перспектыву. У канцы красавіка «Белбізнесбанк» на льготных умовах выдзеліў яму крэдыт на паўгода ў памеры чатырох мільярдаў рублёў.

Была таксама дадзена адтэрміноўка да канца года па плацяжах у бюджэт і энерганосьбітах, замарожаны даўгі на тры з паловай мільярды рублёў. І вельмі важна, што прадпрыемства атрымала дазвол карыстацца сваім разліковым рахункам. А гэта азначае, што дзевяноста працэнтаў паступаючых на яго рахунак сродкаў можна будзе пускаць на папаўненне абаротных сродкаў і пагашэнне прадастаўленых крэдытаў.

У сакавіку згодна з указам Прэзідэнта пачалася выплата працаўнікам неатрыманай зарплаты, для чаго прадпрыемства ўзяло крэдыт у суме 1180 мільёнаў рублёў, і на сённяшні дзень палова яго пакрыта ўжо за кошт бартэру і работы цэха санітарна-тэхнічных вырабаў, які ў сакавіку-красавіку вырабіў прадукцыі на тры мільярды рублёў, а ў маі завод паставіў задачу выпусціць яе яшчэ на чатыры мільярды рублёў.

— За кошт чаго? — спытаў я ў дырэктара прадпрыемства Дзембаса.

Мікалай Міхайлавіч узначаліў завод крыху больш як два месяцы назад, але ўжо ўвайшоў у курс усіх спраў.

— Як толькі мы атрымалі крэдыт, — адказаў ён, — адразу ж пачалі набываць сыравіну і матэрыялы па больш выгадных для нас цэнах. Напрыклад, у камерцыйных структур Беларусі закупілі партыю металу на дваццаць працэнтаў танней чым у пастаяннага партнёра з Чарапаўца. З пачатку мая пачаў работу калектыў прэсавага аддзялення нашага асноўнага цэха — па вырабу посуду — і ў дваццатых чыслах мая наладзім яго выпуск.

Спецыялісты прадпрыемства правялі маркетынг па спажыўцах сваёй прадукцыі, пашырыўшы яе збыт у Сібір, Урал і Паволжа. Згодна са складзеным бізнес-планам магутнасці завода дазволяць вырабляць яе штомесяц на шэсць-сем мільярдаў рублёў.

Прычым вялікая ўвага звернута і на тое, каб падабраць той асартымент тавараў, якія б карысталіся попытам, — як па заяўках гандлёвых арганізацый, так і замежных фірмаў.

Так, адна з іх (нямецкая) дала заяўку на выраб камінаў, якія ў гэтай краіне людзі ахвотна купяць. Намечана для Германіі вырабляць і такія камплектуючыя, як клемы. На завод звярнуліся і кіраўнікі адной з японскіх фірмаў з прапановай выпускаць для яе посуд з тытану. Тэхналагічныя прапрацоўкі яго ўжо робяцца.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

ДВА ПІСЬМЫ НА АДНУ ТЭМУ

## Нават пасля ЛТП зноў пайшоў у запой

Паважаная рэдакцыя газеты «Звязда», я пастаянна выпісваю вашу газету і вельмі прашу вас: дапамажыце мне выйсці з вельмі цяжкага становішча, у якое я трапіў. Мне 32 гады, але адолеў мяне алкагалізм.

Нядаўна, пасля таго як пабываў на кадзіраванні, мяне адправілі на лячэнне ў ЛТП. Прымаў там самыя сучасныя таблеткі, і ўсё роўна, вярнуўшыся дамоў, пайшоў у запой. Пазбавілі мяне правоў трактарыста, а ў мяне маладая жонка (без работы), двое дзяцей. Жывём цяпер на бацькоўскую пенсію.

Чуў я неяк па радыё выступленне ўрача-нарколага, які расказваў,як трэба лячыць алкаголіка. Праўда, толькі не кадзіраваннем. Але прозвішча гэтага ўрача я не запомніў і не ведаю. Прашу вас, можа нават праз міністра аховы здароўя, дапамажыце мне выйсці з гэтага цяжкага становішча: я яшчэ малады, і вельмі хочацца жыць...

**К. К.**

*Клецкі раён.*

## І развесціся не магу, і жыць так немагчыма...

Не ведаю, да каго мне ўжо і звярнуцца, а таму падаю свой голас вам, паважаныя чытачы, і хачу падзяліцца з вамі сваім горам.

У мяне двое малых дзетак і муж п'яніца. Я выбілася з сіл жыць, а развесціся пакуль не магу, бо і гэта не выйсце, усё-такі двое дзяцей, а адно з іх — інвалід. Муж жа бязбожна п'е кожны дзянёчак. Рабіць нічога не робіць, па гаспадарцы не дапамагае і ў яго адзін адказ: «Піў і піць буду».

Пачалі мы будаваць хату некалькі гадоў назад. Дык Бог ведае, калі гэтая хата дабудуецца. А мне так цяжка гадаваць дзяцей, асабліва сына-інваліда. Колькі нерваў, колькі здароўя патрэбна на ўсё гэта. Муж жа аніяк не дапамагае, яму за гарэлкаю часу няма, не бачыць свету белага. Здаецца, каб прыйшоў, мяне ўцешыў, дапамог, даў у чым-небудзь параду. Дык не. Я ж сяджу ў чатырох сценах ужо восем гадоў. Увесь гэты час ён мяне топча ў гразь, прыніжае, стараецца толькі пакрыўдзіць. Горш таго, нават каханку завёў — даравала. Трэба ж дзяцей гадаваць, а бацькі ў мяне няма, і некаму трэба выконваць мужчынскую работу. Жывём мы ў вёсцы.

Прашу яго па-харошаму, угаворваю: не пі. А ён у адказ: «Не разумею, чаго ты ад мяне хочаш? Усё, што ты мне гаворыш, — мне да лямпачкі. Піў і піць буду. А ты сядзіш дома, вось і глядзі дзяцей. А ад мяне нічога не патрабуй».

Людзі добрыя, дапамажыце, падкажыце, як жыць далей? Дзе шукаць паратунку?

**З павагай да вас**
**С. А.**

***P. S.***

***Каменціраваць гэтыя лісты амаль немагчыма. А можа, чытачы ўсё ж нешта параяць і падкажуць аўтарам пісьмаў, якія трапілі ў такія складаныя жыццёвыя варункі.***

# ДЗЯКУЕМ ЗА СЫНА І ЗЕМЛЯКА!

**Вашу газету чытаюць многія жыхары Рэспублікі Беларусь. Добра ведаюць яе і ў вёсцы Мехедавічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. А там жывуць бацька, Драгун Раман Максімавіч, і маці, Драгун Кацярына Аляксандраўна, падпалкоўніка Віктара Раманавіча Драгуна.**

Віктар Раманавіч, беларус, да арміі закончыў Гродзенскае сярэдняе прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 49 хімікаў. Потым працаваў на заводзе карданных валаў імя 50-годдзя СССР. З 1974 года ён ва Узброеных Сілах. Там закончыў Саратаўскае вышэйшае ваеннае інжынернае вучылішча хімічнай абароны і Ваенную акадэмію хімічнай абароны.

У ліку першых Віктар Драгун прымаў актыўны ўдзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, а ў 1993 годзе быў на ліквідацыі аварыі на Сібірскім хімічным камбінаце ў горадзе Томску. Афіцэр-хімік дзейнічаў умела, праяўляў рашучасць, аператыўна вырашаў пытанні радыяцыйнай бяспекі і засцярогі асабовага саставу.

Прыемна будзе даведацца бацькам, землякам аб тым, што за мужнасць, самаадданасць, праяўленыя пры ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, Указам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі падпалкоўнік В. Драгун узнагароджаны ордэнам «За мужнасць».

Віктар Раманавіч сумленны і працавіты афіцэр. Пасля аварыі на ЧАЭС перанёс цяжкія аперацыі, стойка змагаецца з хваробамі, працягвае армейскую службу. Цяпер ён служыць у Федэральнай пагранічнай службе Расійскай Федэрацыі.

Шчыра віншуем бацькоў Віктара Раманавіча з высокай узнагародай сына, жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця.

**Ад імя саслужыўцаў**
**Уладзімір АРЦЁМАЎ.**

*г. Масква.*

### НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..

# ЯК РУЙНАВАЛІ НАШЫ ТАПОНІМЫ

На працягу многіх гадоў, пачынаючы з лістапада 1917 года, наша нацыянальная тапанімія літаральна руйнавалася, бязлітасна і сістэматычна знішчаліся старадаўнія назвы беларускіх вёсак, пасёлкаў, фальваркаў, засценкаў, урочышчаў. Не зусім маюць рацыю тыя, хто сцвярджае, што да 30-х гадоў у рэспубліцы назіраўся ледзь не росквіт (ці Рэнесанс) беларускай культуры. Калі мець на ўвазе адносіны ўладаў да народнай тапаніміі (а яна, як вядома, «з'яўляецца неад'емнай часткай культуры), то яе вынішчэнне ішло бесперапынна і ў гэты час. «Мы наш, мы новы свет збудуем!..» Беларуская народная культура, і ў прыватнасці тапанімічная лексіка, разглядалася не іначай як «стары свет» і прыносілася ў ахвяру новаму, так званаму інтэрнацыянальнаму свету. Дзеля гэтай бальшавіцкай стратэгіі — нічога нацыянальнага, а толькі інтэрнацыянальнае — ужываліся самыя розныя тактычныя метады і сродкі.

Каб не быць галаслоўным, прывяду факты. Тым больш, што іх дастаткова.

15 лістапада 1923 года быў утвораны Полацкі павет Віцебскай губерні. У састаў павета ўвайшлі 13 валасцей цяперашніх Полацкага, Расонскага, Гарадоцкага і Шумілінскага раёнаў. З сусветнай практыкі вядома, што адміністрацыйная адзінка атрымлівае назву ад яе цэнтра. Напрыклад, Верхавіцкай воласць завецца таму, што цэнтрам яе з'яўляецца в. Верхавічы. Але гэтая разумная практыка была не для нашых тагачасных кіраўнікоў.

І ў выніку:

1. У в. Арэхава была заснавана не Арэхаўская воласць, а Ленінская;
2. в. Обаль стала цэнтрам не Обальскай воласці, а Сялянскай (а іншыя што — не сялянскія?);
3. в. Казьяны — цэнтрам Працоўнай воласці (а іншыя што — не працоўныя?);
4. Маёнтак Палата — цэнтрам Бухарынскай воласці... І далей тая ж безаблічнасць, тая ж ідэалагізацыя мясцовай тапаніміі;
5. в. Сястронкі — Першамайская воласць;
6. в. Рудня — Калінінская;
7. в. Клясціцы — Пралетарская;
8. в. Альбрэхтава — Чырвонаармейская;
9. в. Продавічы — Валадарская;
10. в. Гомель — Кастрычніцкая.

У 13 валасцях — 10 штучных, палітызаваных назваў. І гэта — на пачатку 20-х гадоў.

Нагадаю пра важнейшыя этапы знішчэння нацыянальнай тапаніміі.

Аддаўшы заходнюю палову Беларусі палякам (Рыжскі мірны дагавор), бальшавікі сталі ператвараць усходнюю Беларусь у мілітарызаваны плацдарм для вызвалення працоўных усяго свету. На параўнальна невялікай тэрыторыі ствараліся ваенныя гарадкі, памежныя зоны, палігоны, ваенныя лясніцтвы, аэрадромы, танкадромы і г. д. Адчужаліся землі для правядзення манеўраў і вучэнняў. У выніку насельніцтва мусіла пакідаць свае вёскі, хутары, пасёлкі, слабодкі, засценкі, часткі гарадкоў і мястэчкаў. Зніклалі населеныя пункты і зніклі, зразумела, іх старажытныя назвы. У тых жа валасцях і селішчах, што ацалелі, ішло «хрышчэнне»: вёскам і сельсаветам надаваліся імёны знакамітых рэвалюцыянераў — Леніна, Троцкага, Бухарына, Сталіна, Луначарскага, Кнорына, Дзяржынскага і шмат якіх іншых. Калі ж потым высвятлялася, што некаторыя з іх сталі «ворагамі народа», зноў ішла змена назваў. Дзе-ндзе такое назіралася па некалькі разоў. (Што гэта вымагала сродкаў, нікога не турбавала. Гэта цяпер, калі ўзнікае прапанова вярнуць тую альбо іншую беларускую назву, заўляюць: немагчыма ажыццявіць, бо не хапае грошай, не прыйшоў час і г. д.)

Які плён давала бальшавіцкае «хрышчэнне», наглядна відаць на такім, напрыклад, канкрэтным факце. Лельчыцкі раён Гомельскай вобласці. Старажытная тураўская зямля. Сярод колішніх непраходных балот і лясоў схавалася вялікая вёска Радзівілавічы. Схавалася?.. Дзе там! У 1925 годзе ёй далі новую назву — Радзілавічы. Але праз нейкі час яна не спадабалася нейчаму пільнаму бальшавіцкаму воку, і вёсцы далі іншую назву — Дзяржынск. Сельсавет стаў Дзяржынскім. Калгас стаў называцца — «На варце» (што і каго ён быў абавязаны вартаваць?). І нават балота паблізу Радзівілавічаў стала Дзяржынскім (гл. «Энцыклапедыю прыроды Беларусі», том другі, стар. 188). Цяпер ва ўсім сельсавеце вы не знойдзеце ніводнай сапраўднай старажытнай беларускай назвы.

У канцы 20 — пачатку 30-х гадоў, калі ішла калектывізацыя, па нашай тапаніміі быў нанесены чарговы, на гэты раз ужо сталінскі, удар. Знішчаюцца, зноў-такі, пасёлкі, хутары, фальваркі, людзей перасяляюць у іншыя вёскі і гарады (а каго гвалтам высяляюць на Поўнач і ў Сібір). Толькі на тэрыторыі сучаснага Светлагорскага раёна былі знішчаны за гэтыя гады 121 хутар і 32 пасёлкі. Ну і, вядома ж, знішчаліся іх прыгожыя, адметныя, непаўторныя назвы. На змену ім прыходзілі гвалтоўна навязаныя людзям новыя, пазбаўленыя водару народнай творчасці і гісторыі. Калгасы атрымлівалі імёны розных партыйных і савецкіх функцыянераў, дзеячаў міжнароднага камуністычнага руху, назвы з'ездаў партыі і саветаў і г. д. Дайшло да таго, што ў мясцовым друку і нават у літаратуры сталі ўжываць не назвы вёсак і пасёлкаў, а назвы калгасаў і саўгасаў, у састаў якіх уваходзілі вёскі і пасёлкі.

Пасля Айчыннай вайны — яшчэ адзін этап — знішчэнне нашай тапаніміі як часткі беларускай культуры і гістарычнай спадчыны працягваецца. З'яўляюцца сотні «трасянкавых» назваў накшталт: Фруктовы (трэба Садавіны), Акцябр (Кастрычнік), Васток (Усход), Імеміе (Маёнтак), Каўровая (Дываноая), Радуга (Вясёлка), Рошча (Гай), Бодры (Бадзёры), Барба (Барацьба), Новы Пахар (Новы Араты), Рассвет (Світанак), Уютны (Утульны), Янтарны (Бурштынавы), Рошчыца (Гаёк) і г. д. Прыкладаў — сотні. І тут, як бачым, праяўляюцца не толькі пагарда да культурнай спадчыны народа, прымітыўная русіфікацыя, але і звычайная непісьменнасць. На жаль, гэтыя так званыя тапонімы захоўваюцца да сённяшняга дня, задавальняючы тых, ад каго залежыць, як нам называцца.

Далей. У 1962 годзе была знішчана як «неблагазвучная» старажытная назва горада Дрыса — паселішча ў сутоцы рэк Дрыса і Дзвіна.

Горад назвалі Верхнядзвінскам. Але ж назва гэтая не толькі не пісьменная, але і недарэчная. Рака Дзвіна працякае па зямлі трох краін (Расіі, Беларусі, Латвіі) прыблізна роўнымі адрэзкамі (326, 342 і 352 кіламетры). На Беларусь прыпадае сярэдняе (а не верхняе) цячэнне. Пагэтаму, калі ўжо і перайменоўваць Дрысу, то трэба было б назваць яе Сярэднядзвінскам. Тым не менш, непісьменная, навукова не абгрунтаваная назва Верхнядзвінск захавалася па сённяшні дзень.

Дарэчы, аб назвах рэк. Латышы, напрыклад, не перакладалі назву ракі Дзвіны з іншых моў, а назвалі яе па-свойму — Даўгава. Мы ж пераклалі рускую назву ракі і называем яе Заходняй Дзвіной. Але ж яна для нас не заходняя (як для Расіі), а паўночная. І наогул, паколькі іншых рэк з гэткаю назвай у нас няма, раку трэба б было называць проста Дзвіной. Гэтак жа, як і іншую раку называць проста Бугам. Гэта на Украіне патрэбна назва Заходні Буг. Бо там працякае яшчэ і Паўднёвы Буг.

Але вернемся да гідронімаў да тапаніміі, дакладней — да таго малюнку, які ўяўляла сабой (ды ўяўляе ў значнай меры і на сённяшні дзень) тапанімічная карта Беларусі. Тут і там бачны сляды гвалтоўнага перайменавання-перайменоўвання, грубай ідэалагізацыі нашай адметнай тапаніміі. Узяць хаця б «Ленініяну». Тут ужо ніякай меры і ніякіх межаў не існавала. Калгасаў і саўгасаў, якія насілі імя Леніна, налічвалася (па стану на 1980 год) аж 245. Першынство ж належала Аршанскаму раёну, дзе існавала 5 гаспадарак, якія насілі імя правадыра пралетарскай рэвалюцыі. Такая шчыльнасць адной назвы непазбежна прыводзіла да своеасаблівай таўталогіі. Так, напрыклад, у Асіповіцкім раёне існуюць калгасы імя Леніна (цэнтр — вёска Ясень) і імя Уладзіміра Ільіча Ульянава (цэнтр — вёска Радуціны). У Іўеўскім жа раёне адзін калгас звуўся «Шлях Леніна», а суседні, з цэнтрам у в. Лелюкі, — «Ленінскі шлях». Дададзім сюды Ленінскія раёны Мінска, Брэста, Гродна, Магілёва, Бабруйска, 37 вёсак і пасёлкаў, што носяць імя правадыра, шматлікія плошчы, вуліцы, культустановы.

Такое «ўшанаванне» часам даходзіла да абсурду. Так, у Ленінскім сельсавеце Добрушскага раёна амаль усё носіць імя правадыра: вёска Леніна, пасёлак Леніна, калгас імя Леніна, прыпынак цягніка Ленінддар. Тут нават рэчку Лук'янаўку,ператварыўшы спачатку ў канал, перайменавалі ў Ленінддарскі канал («Блакітная кніга Беларусі», стар. 228). Праўда, засталася некранутай назва вёскі Завідаўка. Але жыхароў яе таксама не пакрыўдзілі: яны працуюць у калгасе імя Леніна і жывуць на тэрыторыі Ленінскага сельсавета...

У сярэдзіне 80-х гадоў тэмпы русіфікацыі і ідэалагізацыі беларускай тапаніміі сталі крыху запавольвацца. Можа быць, па той простай прычыне, што ў некаторых рэгіёнах ад яе засталіся толькі аскепкі. Але выпраўляць становіцца ніхто, здаецца, не збірацца. Слаба выпраўляецца яно і зараз, хаця, здавалася б, прыйшоў час мяняць справу да лепшага, вярнуць народу яго спадчыну. Гэтага патрабуе і новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Дык давайце ж усе, каму дарагая наша слаўная мінуўшчына, наша нацыянальная культура ва ўсіх яе праявах, разгорнем патрыятычную дзейнасць па аднаўленню нашай знявечанай тапаніміі!

**Валянцін ЖЫДЦ.**

*г. Бабруйск.*

---

*Васіль ЖУКОВІЧ*

## ПАРАДОКСЫ, або Штрыхі да падзей і партрэтаў

### ЦІ ДАЧАКАЕМСЯ ГІМНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ?

Хочам жыць з законным гімнам —
з новым гімнам, дарагім нам.
І да гэтае пары
спіць начальства і не чуе,
як, трывушчых нас, пілуе
кожнай ранічкай стары,
так пілуе, хоць памры.

### ЦІ З'ЯВІЦЦА НЕПАДКУПНАЕ ПРАВАСУДДЗЕ?

Хто ўкраў свініны кілаграм —
прыгаварылі к тром гадам.
Хто ўзяў мільярд — не вінават.
Бо нейчы кум, ці сват, ці брат.

### ЦІ ЗВЯДУЦЦА Ў НАС ДАНОСЧЫКІ?

— Дзе міліцыя!.. Туды яе!..
Што за беспарадак гэта:
бачыце, баба прадае
бела-чырвона-белыя букеты!

### ЯК БЫЦЬ З КАМБІНАЦЫЯМІ?

Камбінатары раяцца...
Хто — на Захад, хто — на Ўсход.
Камбінацыю з трох пальцаў
атрымоўваеш, народ.

---

### З ПОШТЫ РУБРЫКІ

## УШАНАВАЛІ МЁРТВЫХ І... ЗНЯВАЖЫЛІ ЖЫВЫХ

Вядома ісціна, што пакуль народ шануе сваіх продкаў, помніць іх і ахоўвае іх магілы — народ жывы! Здаўна існуе і прадаўжаецца сёння ў нашым Віцебску традыцыя: на Вяліксдзень, на Радаўніцу, на Тройцу ідуць і едуць людзі на гарадскія могілкі, што знаходзяцца ва ўрочышчы Мазурына, і прыводзяць старанна парадак магілы родных і блізкіх, душэўна памінаюць іх.

На жаль, гэтая святая, высакародная справа часта азмрочваецца цяжкасцямі транспартнага характару, сутыкаецца з рознымі перашкодамі. Не абышлося без іх і на гэты раз, у дзень сёлетняй Радаўніцы. Дабрацца да Мазурына можна было толькі адным рэйсавым аўтобусам нумар дванаццаць, што ходзіць да дачнага пасёлка Уланавічы. З цяжкасцю ўціснуліся ў аўтобус, з цяжкасцю, пад лаянку, абразы і праклёны ў адрас адзін аднаго і начальства, даехалі да Мазурына. Але яшчэ цяжэй было вяртацца назад, пасля таго, як дагледзелі могілкі, памянулі продзічаў і сваякоў. Справа ў тым, што апоўдні, недзе а 16-й гадзіне, на аўтобусным прыпынку сабралася вялікая група людзей у чаканні аўтобуса з Уланавічаў. Але аўтобус прыходзіў ужо набіты дачнікамі. Каб неяк дабрацца дадому, стомленыя пажылыя людзі вырашылі зрабіць круг, праехаць у процілеглы бок. Селі ў аўтобус, прабілі талоны, уздыхнулі з палёгкай. Але радасць наша была заўчасная: праз нейкія 15 хвілін вадзіцель на апошнім прыпынку скамандаваў усім нам (было каля дваццаці чалавек пенсіянераў) выйсці і перайсці на пасадачную пляцоўку, на якой тоўпілася не менш як сто чалавек. На ўсе просьбы не выганяць, пашкадаваць старых людзей, якія да таго ж ужо аплацілі праезд, вадзіцель (па прозвішчу, як потым даведаліся, Кобзаў) груба паўтарыў адно: «Вон! Вон, інакш не паеду!»

І слова сваё стрымаў: каля дзвюх гадзін стаяў, трымаў людзей у аўтобусе. Ніякія словы, ніякія ўгаворы не дзейнічалі. Адбывалася тое, што называюць «бязмежжам». Складвалася ўражанне, што гэта не проста самадурства асобнага хама, што ўсё гэта не выпадкова, а робіцца для таго, каб знішчыць у нашым народзе рэшткі самапавагі, чалавечай і грамадзянскай годнасці. Бо возяць жа на сядзячых месцах для ўдзелу ў мітынгах адну частку народа, а на іншых аўтобусах вязуць людзей у форме з дубінкамі і шчытамі, каб разганяць другую частку таго ж народа. І вось па дарозе на могілкі амаль паўзадушаныя людзі крычаць: «Няма на іх Сталіна!» На каго — на іх?..

Тая сумная гісторыя, як памінаюць мёртвых і маральна забівалі жывых, скончылася тым, што некалькі нас, у пошуках справядлівасці, дабраліся потым да гаража, які знаходзіцца на вуліцы Цералькоўскай, і высветлілі: прозвішча вадзіцеля аўтобуса нумар 0757-ВА — Кобзаў, дзяжурыла па гаражы ў той дзень дыспетчар Л. Ф. Качанава.

**САФРОНАВА Л. І., СЦЯПУРА І. Р. ХАДУНОВА Ф. І., Усяго 23 подпісы.**

*г. Віцебск.*

**Вядучы рубрыкі Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

---

# Угодкі Максіма Багдановіча

Што такое музей? У першую чаргу гэта экспанаты, якія складаюць аснову экспазіцыі. Збіраннем экспанатаў, іх рэстаўрацыяй і навуковай апрацоўкай займаліся супрацоўнікі. Нельга сказаць, што мы пачыналі на пустым месцы. Напрыклад, галоўны бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна Ніна Ватацы шмат гадоў па асабістай ініцыятыве і за свой кошт збірала матэрыялы па Максіму Багдановічу. Гэтыя экспанаты яна перадала ў фонды нашага музея і яны паслужылі добрым падмуркам для пабудовы экспазіцыі. Мы ж ездзілі па камандзіроўках у мясціны, дзе жыла сям'я Багдановіча: Н. Ноўгарад, Яраслаўль, Вільня, Ялта, каб па крупінках збіраць тое нямногае, што засталося на ўспамін аб Максіме. Хадзілі таксама па старых раёнах Мінска, лазілі на гарышчы, каб сабраць рэчы — аналагі тых часоў.

Але экспанат сам па сабе не быў бы такім цікавым, калі б не мастакі, якія робяць для іх дастойную аправу. Паколькі будынак, дзе нарадзіўся Максім Багдановіч, не захаваўся, пад музей быў выдзелены звычайны дом, пабудаваны ў канцы XIX ст. Ён знаходзіцца ў Траецкім прадмесці і ў сваім першапачатковым выглядзе ніякіх паэтычных пачуццяў не выклікаў. І, магчыма, толькі талент і адчуванне ўнутранага свету паэта дапамаглі мастаку Эдуарду Агуновічу распрацаваць, а групе выканаўцаў стварыць экспазіцыю, дастойную такога паэта, як Максім Багдановіч. Музей прыняў сваіх першых наведвальнікаў 9 снежня 1991 года, да 100-годдзя паэта.

Пабудова яго экспазіцыі нетрадыцыйная, у яе аснову пакладзена адзінае прыжыццёвае выданне Максіма Багдановіча — паэтычны зборнік «Вянок». Праходзячы па залах музея, мы даведваемся не толькі аб жыцці і творчасці паэта, публіцыста, крытыка, перакладчыка, але адчуваем яго мастацкі свет, дзе пануюць гармонія і хараство. Кожная з пяці залаў адпавядае адному з цыклаў вершаў зборніка: «У зачараваным царстве», «Згукі бацькаўшчыны», «Старая Беларусь», «Вянок», «Мадонны». Аздабленне залаў стылізавана пад «мадэрн». За мастацкую распрацоўку і афармленне нашага музея Э. Агуновіч атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Той, хто знайшоў час прыйсці да нас, не шкадуе аб гэтым. Людзі не могуць жыць толькі будзённымі праблемамі. У сваім творы «Апокрыф» вуснамі Хрыста М. Багдановіч прамаўляе «...добра быць коласам, але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»

Але музей — гэта не толькі экспазіцыя. У яго фондах сабрана больш за 14 тысяч экспанатаў. Супрацоўнікі займаюцца вывучэннем і публікацыяй навуковых матэрыялаў. Рыхтуем да друку зборнікі дакументаў і лістоў сям'і Багдановічаў і іх акружэння. Праводзяцца навуковыя канферэнцыі, вечарыны і выстаўкі.

25 мая, у дзень смерці Максіма Багдановіча, традыцыйна аматары яго творчасці ўсклалі кветкі да помніка ў Мінску, а ў музеі адбылася вечарына, прысвечаная памяці паэта.

**Валянціна БЯЛЯЎСКАЯ.**

## Таццяна ГАЛКО:

# «ТОЕ ЖЫЦЦЁ, У ЯКІМ МЯНЕ НІХТО НЕ ЗАМЕНІЦЬ, Я ПАСТАВІЛА ВЫШЭЙ...»

### РАДКІ З БІЯГРАФІІ

*Нарадзілася ў акадэмгарадку ў беларускіх Горках, у сям'і выкладчыкаў знакамітай ВНУ. Закончыла школу з залатым медалём і паступіла на гістарычны факультэт БДУ, затым у аспірантуру. Некалькі гадоў адпрацавала на кафедры. І амаль дзесяць гадоў — у інстытуце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук (зараз — Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі). Вырасла да першага прарэктара ВНУ. У 1993 годзе ўзначаліла ўпраўленне вышэйшай школы Міністэрства адукацыі. У кастрычніку 1994-га заняла пасаду намесніка міністра. Праз дзевяць месяцаў, пасля нашумелай гісторыі з заменай школьных падручнікаў, пакінула гэтую пасаду. З восені 1995 года — рэктар Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання. Замужам. Мае двух сыноў.*



**— Таццяна Яўгенаўна, давайце вернемся крыху ў мінулае. Да таго моманту, калі вы сталі намеснікам міністра адукацыі і навукі Васіля Стражава. Вылучэнне было для вас нечаканасцю?**

— Нельга сказаць, каб поўнай. Паколькі мне давялося працаваць начальнікам упраўлення ў Стражава яшчэ ў бытнасць яго намеснікам міністра, вылучэнне маёй кандыдатуры выглядала натуральным. Дый ён папярэдзіў, што будзе прапаноўваць мяне намеснікам. Мы былі паплечнікамі, прыхільнікамі адной ідэі.

**— І вы цалкам разумелі адзін аднаго?**

— Стражаў не быў проста «загадваючым начальнікам», а хутчэй — апанентам у спрэчцы, калі такая мела месца. Іншая справа, што ўжо ў вялікай палітыцы, відаць, існуюць свае правілы. Якія вышэй за аргументы. Значыць, я дрэнны палітык, бо для мяне такіх правілаў не існуе. Акрамя таго, у маім характары адсутнічаюць якасці, якія, як лічыцца, павінны быць у класічнага чыноўніка. Скажам, я не магу падпарадкоўвацца тым загадам, з якімі не згодна. Мусіць, для кожнай пасады па-ранейшаму ёсць свой набор якасцей.

**— А вам ніколі не хацелася адмовіцца ад нечага ў сабе, набыць тыя самыя патрэбныя якасці (згаворлівасць, напрыклад), каб ісці далей па службовай лесвіцы? У тую ж «вялікую палітыку».**

— Яшчэ ў канцы 80-х, калі грамадскае жыццё значна актывізавалася, мяне многія агітавалі ўступіць у жаночы рух. Я адмовілася. Не таму, што лічыла жанчыну няздольнай нешта змяніць. Проста, прысвяціўшы практычна ўсё жыццё рабоце, я столькі недадала сям'і! Я разумела, што ў палітыцы перавароту не зраблю, а сям'я будзе абдзелена. Тое жыццё, у якім мяне ніхто не заменіць, я паставіла вышэй за існаванне, у якім мяне можна замяніць.

**— На якой пасадзе вы адчувалі найбольшае задавальненне ад работы?**

— Калі працавала дацэнтам у інстытуце павышэння кваліфікацыі. Гэта была лепшая пара ў маім жыцці. Я люблю аўдыторыю, люблю студэнтаў, і яны адказваюць мне тым жа. За кафедрай я максімальна магу даць як педагог, як лектар, выхавальнік. Там я жыву! Але, калі шчыра, я ніколі не згаджалася на пасаду дзеля пасады, калі яна мне не падабалася. Нават у рабоце ў міністэрстве была свая прывабнасць. Мне падабалася займацца ўкараненнем новых ідэй, якія ўжо існуюць у сусветнай сістэме вышэйшай школы.

**— Дарэчы, абставіны вашага зыходу з міністэрства для многіх засталіся незразумелымі. Калі можна, зачэпім гэтую тэму.**

— Самае цікавае, што для мяне яны таксама засталіся таямнічымі. Я да гэтага часу не ведаю, ды і не ставіла сваёй мэтай даведацца, у чым усё ж першапрычына. Тую сітуацыю з падручнікамі вы памятаеце. Паварот, які меркаваўся (адмова ад падручнікаў, напісаных пасля 90-га года), для мяне быў бы немагчымы. У ВНУ гэта азначала вяртанне да вывучэння гісторыі партыі, да навуковага камунізму. Я сказала прадстаўніку Адміністрацыі, што наўрад ці змагу гэта выканаць. І тады праз майго сябра і начальніка Стражава мне прапанавалі пашукаць іншае месца работы. Вядома, я магла сказаць: «Сама я не пайду. Хай мяне звальняюць. А звальняць мяне няма за што». Але я лічыла, што ў той сітуацыі трэба было максімальна захаваць у міністэрстве людзей, здольных далей рабіць справу. Працаваць заўсёды павінна адна каманда — каманда аднадумцаў. А калі ўнутры яе з'явіліся супярэчнасці, тады працэс стваральнай працы ператвараецца ў звычайнае перамыванне касцей. І калі чалавек па нейкай прычыне выбіваецца з каманды, то ён павінен узяць на сябе смеласць пайсці. Гэта нармальна.

**— Ці гатовы вы лічыць сваю ўчарашнюю пасаду пікам уласнай кар'еры, яе вяршыняй, вышэй за якую ўжо не ўзняцца? Ці ў вашым разуменні вяршыня ў біяграфіі, у лёсе — гэта нешта іншае?**

— Некалькі гадоў назад, яшчэ да пераходу ў міністэрства, у маім жыцці адбыўся карэнны, рэвалюцыйны пералом. Я сустрэла надзвычай яркую асобу — энцыклапедычна адукаванага, рознабакова развітога, вельмі веруючага чалавека. Гэта адзін з сяброў Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава — прафесар, доктар навук Андрэй Барысавіч Зубаў. Ён мяне, атэістку, паступова, на працягу трох гадоў, прывёў да разумення абсалютна іншай шкалы жыццёвых каштоўнасцей. Згодна з ёю павышэнне па службе абсалютна не азначае поспех, а адстаўка — няўдачу. Маральна для мяне гэтая шкала больш важная, і дай Бог, каб я змагла кіравацца ёю ў жыцці.

Там вышыні іншыя — не ў высокіх крэслах, а ў адносінах да справы, да людзей, да блізкіх, да маральных каштоўнасцей. І тут мне яшчэ караскацца і караскацца да піка...

**— Прагнозы, як вядома, справа няўдзячная. І ўсё ж, у якім крэсле вы хацелі б бачыць сябе ў будучым?**

— Заўважце, што ў маёй кар'еры не было шарахannяў. Усё жыццё адпрацавала ў сістэме адукацыі. Ва універсітэт кіравання таксама прыйшла не для таго, каб праз колькі дзён пайсці. Мне вельмі хочацца стварыць тут першакласную ВНУ. Моладзь мне паверыла, калектыў і бацькі таксама. І калі нам не будуць перашкаджаць, у нас усё атрымаецца. Так што ў будучым я сябе бачу ў гэтым самым крэсле.

**— У чытачоў можа скласціся ўражанне, што ў вашай установе вучацца выключна так званыя «мажоры». Гэта значыць дзеці багатых бацькоў. Здагадкі адпавядаюць рэчаіснасці?**

— Давайце абапромся на лічбы. У нашай ВНУ вучыцца 6000 чалавек. А ўсяго ў сістэме недзяржаўнай платнай адукацыі — каля 22 тысяч. Столькі багатых людзей у нас у рэспубліцы няма. Універсітэт кіравання дае адукацыю прадстаўнікам абсалютна розных сацыяльных груп. Так, ёсць дзеці «новых». Нядаўна адна дзяўчынка прыходзіць і кажа: «Прабачце, мне трэба пераздаць экзамен, мне на імяніны фірму падарылі, і я павінна была там быць».

Ёсць тыя, хто сам летам зарабляе сабе на вучобу. Вучацца і юнакі з вёскі, чые бацькі прадалі апошнюю карову, каб сыну было на што вучыцца.

**— Калі гэта не элітарна-блатная, выбачайце, ВНУ, то вам, відаць, знаёма такая вось сітуацыя. Да рэктара (гэта значыць да вас) прыходзяць бацькі студэнта не вельмі, скажам так, уседлівага, і просяць не выключаць яго. Спасылаюцца, што на працягу трох гадоў за вучобу плаціла фірма, а зараз давядзецца вяртаць даўгі. А дзе ўзяць столькі грошай?..**

**У такія моманты не ўзнікае супярэчнасцей паміж Галко-рэктарам і Галко-чалавекам, які ведае цану капейчыне?**

— Ды не, не ўзнікае. Такім бацькам я кажу, што яны дарэмна гвалцяць дзіця вышэйшай адукацыяй. Чалавек звычайна робіць дрэнна толькі тую справу, да якой у яго не ляжыць душа.

**— Зусім нядаўна міністр адукацыі і навукі В. Стражаў сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА (гутарка друкавалася і ў «Звяздзе»), што вышэйшую адукацыю лепш атрымліваць у дзяржаўнай ВНУ. Як бы вы пракаменціравалі яго папярэджанне?**

— Я разумею, чаму ён так гаворыць. Стражаў і павінен так гаварыць. Яго задача — перш за ўсё ратаваць дзяржаўную адукацыю. Бо дзяржаўныя ВНУ сёння ў сэнсе фінансаў у многім спадзяюцца на платнага студэнта. Магчыма, калі б я зараз была ў міністэрстве, то дапамагала б Стражаву.

Але, з другога боку, задача ў міністра павінна быць шырэйшая — забяспечыць сацыяльную бяспеку і якасць вучобы для юнакоў і дзяўчат ва ўсіх відах ВНУ.

На самай справе, пакуль цяжка сказаць, якія навучальныя ўстановы лепшыя. У недзяржаўных было яшчэ мала выпускаў. Але там, дзе адбыліся, практычна няма беспрацоўных выпускнікоў. Розніца яшчэ і ў тым, што дзяржаўны універсітэт можа дазволіць сабе падрыхтаваць некалькі не вельмі добрых спецыялістаў, а мы — не. Таму што кожны наш дрэнны студэнт — натуральная антырэклама, што ў выніку адаб'ецца на фінансавым стане універсітэта і кожнага яго работніка.

**— Сярод адмоўных момантаў недзяржаўнай адукацыі міністр назваў тры асноўныя: нездавальняючы стан матэрыяльна-тэхнічнай базы навучальных устаноў, невысокую якасць выкладання і не вельмі жорсткія патрабаванні да абітурыентаў на ўступных экзаменах. Вы схільныя хутчэй згадзіцца, ці хутчэй не згадзіцца?**

— Разбяромся па пунктах. Матэрыяльная база за два-тры гады, вядома ж, не стане такой, як за семдзесят. Але затое ў нас усё новае — камп'ютэры, іншае абсталяванне, праграмы, кнігі. У дзяржаўных на аднаго студэнта сапраўды 29 падручнікаў, у той час як у недзяржаўных — 12. Але з іх 29 палова — устарэлыя.

Наконт прыёмных экзаменаў таксама можна паспрачацца. Асабіста я лічу, што на платнае навучанне можна прымаць усіх жадаючых. У цывілізаваным свеце безэкзаменацыйны прыём — даволі распаўсюджаная з'ява. Калі студэнт не зможа вучыцца, яго выключаць. Нельга даць дыплом за грошы, але прыняць за грошы трэба ўсіх жадаючых.

Што тычыцца ўзроўню выкладання. Скажу пра нас. У нас 50 працэнтаў вучэбнай нагрузкі бяруць на сябе штатныя выкладчыкі. Абсалютная большасць з іх — кандыдаты або дактары навук. Калі гэта не пераконвае, то дабаўлю, што па некалькі разоў у год праводзім анкетаванне студэнтаў: цікавімся прафпрыгоднасцю выкладчыкаў. Ёсць «ахвяры»: трое выкладчыкаў звольнены менавіта па выніках апытання.

**— Да пытання аб звальненнях. Пасля красавіцкіх мітынгаў газеты паведамлялі, што ў некаторых дзяржаўных ВНУ рабіліся спробы «чысткі» сярод выкладчыкаў і студэнтаў. Як павяло сябе кіраўніцтва універсітэта кіравання?**

— Мы гаварылі сваім студэнтам:«У сценах ВНУ ніякай палітычнай агітацыі не будзе. А так маеце права належаць да любой з афіцыйна зарэгістраваных партый». Мы выказваліся за тое, каб людзі былі праінфармаваны аб мэтах і месцы правядзення любога мерапрыемства. Ісці на яго ці не — кожны павінен вырашаць сам. Наша задача — выхаваць вольных, самастойна думаючых людзей.

**— Цяпер пра іншае. Так атрымалася, што ўслед за вамі вымушаны быў змяніць работу і ваш муж, Мікалай Галко. Абставіны звальнення галоўнага рэдактара «Народнай газеты» вядомыя. Але як расцаніла гэты паварот у яго біяграфіі жонка?**

— Я стала яшчэ больш паважаць Мікалая за тое, што ён захаваў свой твар. Я не лічу, што ў газеце пісалася нешта шкоднае для нашай краіны. Што тычыцца пасады — то мой муж ніколі за іх не трымаўся. Ён любіць справу, сваю прафесію, а не мяккае крэсла. Для яго цяжкім было развітанне не са званнем галоўнага рэдактара, а з калектывам.

**— Жыццё вымушае нас задумвацца над капрызным лёсам беларускага інтэлігента. Як, якім чынам ён можа найлепш паслужыць свайму народу, сваёй Айчыне?**

— Зададзімся пытаннем: хто такі інтэлігент? У сённяшніх умовах суцэльнай граматнасці гэта, мусіць, чалавек з любога сацыяльнага асяроддзя, які адрозніваецца толькі адным: ён умее слухаць і адгукаецца на разумнае. Але ён не церпіць бізуна і загаду. У нечым ён антыпод салдату ў страі, які абавязаны не разважаць, а выконваць загад.

Я мяркую, інтэлігенцыя павінна фарміраваць навокал сябе аазіс культуры — маральнай і палітычнай. Загадзя прыгатаваўшыся да таго, што перамены ў менталітэце беларусаў адбудуцца не хутка.

Трэба рэальна ацэньваць сітуацыю. У кожнага працэсу ёсць свой тэрмін. Дзіця нараджаецца праз 9 месяцаў. Маісей вадзіў свой народ па пустыні 40 гадоў, пакуль не памерлі тыя, хто ведаў рабства. Існуе свой тэрмін і для выхавання новай палітычнай культуры ў Беларусі.

Калі аазісы культуры вакол большасці сапраўдных, а не ўяўных інтэлігентаў будуць сфарміраваны, яны сальюцца ў нейкі масіў. З'явіцца супольнасць людзей, здольных па-новаму мысліць.

**— Гаворачы аб лёсе беларускай інтэлігенцыі, немагчыма абысці і тэму беларускай мовы. Якія, на ваш погляд, яе перспектывы?**

— Зноў жа гэта ў многім залежыць ад таго, як будзе паводзіць сябе нацыянальна арыентаваная інтэлігенцыя. Дрэнна, што нацыянальная мова знаходзіцца ў такім закінутым стане. Паўсюдна беларусы размаўляюць па-руску. Народ, які губляе сваю мову, становіцца нейкім гібрыдам. Вы памятаеце кінастужку «Чалавек-амфібія»? Магчыма, валодаць адначасова морам і зямлёю — гэта цудоўна, але чалавек стаў нешчаслівым. Ён здрадзіў уласнай прыродзе.

Дык вось. Мяняючы мову, чалавек таксама становіцца іншым, а гэта прыводзіць да дысгармоніі ў душы.

**Гутарыў Цімур КУДЗЕЯР.**

# Недзіцячыя праблемы адпачынку школьнікаў,

## або Куды падацца летам дзіцяці

**Лета — самы неспакойны час для дарослых, калі пытанне: «Куды ж уладкаваць сваё дзіця?» літаральна лунае ў паветры. Як зрабіць, каб яно не сноўдалася па вуліцах горада, не дыхала распаленым асфальтам і, барані Бог, не трапіла ў якую-небудзь сумніўную кампанію? Вось тады клопату не абярэшся...**

**Выхаваўчы працэс не павінен спыняцца ні на хвіліну, незалежна ад таго, дзе дзіця знаходзіцца — на адпачынку ці на вучобе, сцвярджаюць педагогі. Таму падрыхтоўка да школьных канікулаў у Міністэрстве адукацыі і навукі пачынаецца задоўга да надыходу лета.**

У апошні час, як было справядліва заўважана, усё менш становіцца сем'яў, чые фінансавыя магчымасці дазваляюць праводзіць сямейны адпачынак разам з дзецьмі. У гэтых умовах асноўны цяжар аздараўленчай кампаніі кладзецца, вядома ж, на летнія лагеры. У гэты момант, паводле даных Мінстата, у рэспубліцы дзейнічаюць стацыянарныя лагеры на 67 тысяч месцаў. У бліжэйшы час іх колькасць не толькі не будзе павялічвацца (сёння яна знаходзіцца на ўзроўні 1972—1974 гадоў), але і захавае тэндэнцыю да скарачэння. Таму ў цяжкіх эканамічных умовах і гаворкі аб адкрыцці новых лагераў для адпачынку быць не можа. Галоўная задача на сённяшні дзень — захаванне той матэрыяльнай базы, якая ёсць.

У цэлым жа ў гэтым сезоне плануецца ўтрымацца на ўзроўні мінулага года і аздаравіць ва ўсіх тыпах лагераў (загарадных і дзённага знаходжання) 292 тысячы дзяцей (у гэту лічбу не ўваходзяць школьнікі з пацярпеўшых раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей). А між тым, попыт перавышае прапанаванне. Так, калі мінулым летам было пададзена 102 тысячы заяў на адпачынак у лагерах дзённага тыпу пры школах, то рэальна адпачылі толькі 67 тысяч дзяцей. Таму, цалкам відавочна, што патрэбнасць бягучага года ў 127 тысяч месцаў задаволена яўна не будзе, нават калі рэкамендаваная Кабінетам Міністраў лічба ў 100 тысяч чалавек будзе дасягнута. Няцяжка здагадацца, што частка дзяцей у гэтай сітуацыі застанецца «за бортам». І гэта ўлічваючы, што такая форма адпачынку і аздараўлення самая танная не толькі для малазабяспечаных бацькоў, але і для збяднелай дзяржавы ў тым ліку.

Ну а падлеткі? Куды ўладкаваць іх, калі летнія працоўныя лагеры з некаторага часу перасталі існаваць (патрэбнасць у іх складае сёння 25 тысяч месцаў)? Чаму перасталі? Адкуль, скажыце, узяць гаспадаркам грошы, каб запрашаць да сябе на дапамогу гараджан, ды і нямнога сёння знойдзецца сярод падлеткаў «бяссрэбранікаў», якія згодны «ўкалваць» за сімвалічную плату, як гэта было раней.

За апошнія гады сур'ёзна змяніліся адносіны да лагераў з боку органаў адукацыі. Аздараўленне як шанц папраўіць здароўе па-ранейшаму з'яўляецца найбольш важнай функцыяй лагераў. Максімальна будзе выкарыстоўвацца магчымасць для атрымання хлопчыкамі і дзяўчынкамі дадатковых ведаў, развіцця іх інтарэсаў і здольнасцей. Менавіта гэтым і тлумачыцца адкрыццё профільных лагераў, арыентаваных на задавальненне цікавасці дзяцей да тых ці іншых відаў дзейнасці. Самая разнастайная іх накіраванасць — турыстычная і тэхнічная, экалагічная і мастацкая, спартыўная і краязнаўчая — здольна прыцягнуць да сябе па інтарэсах не толькі навучэнцаў малодшых класаў, але і, што немалаважна, падлеткаў, якія выбіраюць сабе такім чынам занятак даспадобы. Прычым у стварэнні такіх профільных лагераў удзельнічаюць не толькі школы, але і пазашкольныя ўстановы і цэнтры творчасці ў тым ліку.

Але, як гаворыцца, Міністэрства адукацыі мяркуе, а рэальныя гаспадары лагераў — распараджаюцца. І кадравая палітыка, якая праводзіцца на месцах работнікамі сістэмы адукацыі, задавальняе далёка не заўсёды. Справа ў тым, што месца педагога ў апошні час часта сталі займаць работнікі вытворчасці, г. зн. людзі, якія не падрыхтаваныя да работы з дзецьмі. Для іх спецыяльна арганізоўваюцца кансультацыйныя цэнтры па аказанню метадычнай дапамогі работнікам лагераў, але далёка не кожны лічыць неабходным туды звярнуцца. На жаль, рэкамендацыі Міністэрства адукацыі па гэтаму сур'ёзнаму пытанню сапраўднымі гаспадарамі стацыянарных лагераў — прадпрыемствамі і прафсаюзамі — выконваюцца не заўсёды.

Застаецца дадаць, што фінансавацца аздараўленне будзе з фондаў сацыяльнага страхавання. Так да 20 мая фонду «Здароўе» Федэрацыі прафсаюзаў павінна было быць пералічана Міністэрствам сацыяльнай абароны 100 млрд. рублёў (па стану на 24 мая было пералічана 82,6 млрд. руб.). Акрамя таго, Кабінет Міністраў распарадзіўся аб выдзяленні на аздараўленчую кампанію бягучага года пазыкі з рэспубліканскага бюджэту ў памеры 65 млрд. рублёў, у тым ліку 15 млрд. рублёў — на падрыхтоўку матэрыяльнай базы да летняга сезона (па стану на 24 мая пералічана 40 млрд. руб.).

Датацыі на адну пуцёўку ў загарадны кругласутачны лагер пры сабекошце 1.800.000—2.400.000 рублёў складуць 850 тыс. руб., у лагеры з дзённым знаходжаннем (сабекошт — 450—500 тыс. руб.) — 200 тыс. рублёў. Але бацькі па-ранейшаму будуць аплачваць толькі 10 працэнтаў яе кошту, хаця не сакрэт, што нават гэта сума будзе многім не па кішэні, асабліва калі ў сям'і не адно дзіця.

Таму становіцца відавочным, што дзіцячы адпачынак — праблема зусім не дзіцячая.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ПАНТЭОН БЕЛАРУСІ

*ПОДАВАЙТЕ ЖЕ ПОТОМКОМ,*
*ШТО МАЕТЕ З ПРЕДКОВ.*
**Андрэй Рымша.**
*Эпіграма на герб Льва Сапегі. 1588 г.*

**Кожны народ мае людзей, імёны якіх з гонарам запісвае ў аналы сваёй гісторыі — гэта дзяржаўныя дзеячы, военачальнікі, героі ратных подзвігаў, пісьменнікі, мастакі, навукоўцы — усе тыя, хто прынёс славу сваёй Радзіме, хто жыў і ахвяраваў сабой дзеля яе росквіту і велічы. Удзячныя нашчадкі называюць іх вялікімі, знакамітымі, выдатнымі і памяць пра іх шануецца ў стагоддзях.**

**За сваю больш чым тысячагадовую пісьмовую гісторыю беларусы маюць сваіх дзяржаўных мужоў, пераможных ваяводаў, мужных герояў, геніяльных творцаў, рупліўцаў навукі і асветы, самаахвярных змагароў за Бацькаўшчыну, якія заслужылі высокіх эпітэтаў — вялікія, славутыя, знакамітыя, выдатныя. Але ў часы партыйнай ідэалогіі адбывалася мэтанакіраванае адлучэнне беларусаў ад сваёй гісторыі, аплёўваліся і пэцкаліся ў хлусні і брудзе светлыя імёны многіх сыноў Беларусі. Часы мяняюцца, варта скласці і нам свой пантэон вялікіх беларусаў. Хаця некаторыя імёны могуць выклікаць і спрэчкі, нязгоду з пазіцыяй аўтара, але без іх нельга ўявіць нашу гісторыю.**

**Трэба нагадаць, што ў старажытным Рыме Пантэонам называлі храм, прысвечаны ўсім багам, а пасля і ўсыпальні выдатных людзей. У літаратуры пантэонам называюць зборнікі жыццяпісаў вялікіх. Вось такі зборнік «Пантэон Беларусі» і распавядае пра сто гістарычных, культурных і навуковых дзеячаў, якія ўвайшлі ў гісторыю Беларусі.**

***Аўтар.***

## РАГВАЛОД (?—980)
### КНЯЗЬ ПОЛАЦКІ



Першае вядомае нам імя дзеяча беларускай гісторыі. І што б ён ні зрабіў, але ён застаецца ў гісторыі па праву першага. Летапіс паказвае Рагвалода самастойным валадаром Полацкага княства: «Рогволоду державу и владеюую и княжаую Полотьскую землю». Гісторыкі спрачаюцца, хто ж быў па паходжанню Рагвалод. Летапісная згадка аб тым, што прыйшоў Рагвалод «з-за мора, имяше свою волость в Полотьске», дала падставу шэрагу гісторыкаў сцвярджаць, што ён «варяг» або нармандскі конунт. Але той факт, што Рагвалод меў «свою волость в Полотьске» ўказвае на тое, што ён з'яўляўся спадкаемцам полацкай княжацкай дынастыі. Не павінна нас здзіўляць і тое, што Рагвалод прыйшоў «з-за мора». Як вядома, напрыканцы XI стагоддзя Полацк заваявалі кіеўскія князі Асколь і Дзір, і, верагодна, полацкія князі, ратуючыся ад смерці, уцяклі да паморскіх славян ці да нарманаў у Скандынавію. Ужо ў сярэдзіне X стагоддзя, скарыстаўшы тое, што Кіеўская Русь ваявала з Хазарыяй, нашчадак князёў-уцекачоў Рагвалод мог вярнуцца на зямлю бацькоў як законны яе ўладар і аднавіць незалежнасць Полацкага княства.

Пра дзеянні гэтага князя захаваліся фрагментарныя і ўскосныя згадкі. Паданне, якое было запісана ў XIX стагоддзі, распавядае пра паход Рагвалода на Палессе. Спусціўшыся на лодках па Дняпры да вусця Прыпяці, палачане спыніліся, каб загарадзіць шлях кіеўскаму войску. Рагвалод выслаў уверх па Прыпяці дружыну са сваім братам Турам. Ён і заснаваў горад Тураў, сабраўшы пад сваю ўладу дрыгавіцкія землі.

Іаакімаўскі летапіс, які не згадваўся да нашага часу і вядомы паводле пераказу расійскага гісторыка Васіля Тацішчава, распавядае, што Рагвалод ваяваў Наўгародскае княства. Верагодна, вынікам гэтай вайны стала тое, што Рагвалод заваяваў крывіцкі горад Пскоў. На гэта можа ўказваць той факт, што ў некаторых летапісах Рагвалод названы пскоўскім князем. Бачна імкненне Рагвалода аб'яднаць крыўскія і дрыгавіцкія землі, што яму ў значнай меры ўдалося. Саюзу з Рагвалодам шукалі наўгародскі князь Уладзімір і кіеўскі князь Яраполк, якія рыхтаваліся да вайны адзін з адным. Прыблізна ў 980 годзе Уладзімір прыслаў да Рагвалода паслоў прасіць рукі ягонай дачкі Рагнеды. Але паколькі Рагвалод стаў на бок Яраполка і сасватаў яму сваю дачку, дык ён не прыняў прапановы Уладзіміра. Рагнеда адказала ноўгарадскім сватам: «Не хачу разуць сына рабыні, а хачу за Яраполка». Атрымаўшы адмову, Уладзімір сабраў войска і выступіў на Полацк. Рагвалод выйшаў насустрач ворагу і ў бітве быў разбіты. Переможца захапіў Полацк і ўчыніў крывавую расправу, забіў Рагвалода і двух ягоных сыноў. А Рагнеду Уладзімір, згвалціўшы на вачах сваіх вояў, узяў сабе за жонку. Так закончылася жыццё першага вядомага нам полацкага князя. Ёсць свой трагічны сімвал у ягонай смерці — колькі слаўных і мужных беларусаў аддалі сваё жыццё за свабоду Бацькаўшчыны. Рагвалод як бы паклаў пачатак гэтай гераічнай традыцыі. І свабода Беларусі была абмыта ў крыві Рагвалода і ягоных сыноў.

## РАГНЕДА (?—1000)
### КНЯГІНЯ ПОЛАЦКАЯ



Жыццё гэтай жанчыны хвалюе пісьменнікаў і мастакоў, ёй прысвечаны паэмы, аповесці, оперы, карціны, нават балет. У яе вобразе ўвасобілася і жаночая прыгажосць, і жаночая годнасць, і любоў да Бацькаўшчыны. Яна не скарылася перад лёсам.

Уладзімір, які перамог кіеўскага князя Яраполка і стаў княжыць у Кіеве, ажаніўся з Рагнедай. Быў у гэтым кроку ўладара Русі свой палітычны разлік, бо Уладзімір, як муж Рагнеды, атрымліваў права на полацкі пасад. Чатырох сыноў нарадзіла Рагнеда свайму мужу: Ізяслава (вялікага князя полацкага), Яраслава (вялікага князя кіеўскага), Мсціслава (цьмутараканскага князя), Усевалада (заснавальніка г. Уладзіміра-Валынскага), а таксама дзвюх дачок: Прадславу і Дабраняту (жонку кракаўскага князя Казіміра, маці польскіх князёў Баляслава Храбрага і Уладзіслава І).

Міналі гады, але час не вылечыў былы боль. Памятала Рагнеда той жахлівы дзень, калі Уладзімір забіў яе бацьку і братоў, па-ранейшаму ненавідзела яна гвалтаўніка. З Уладзімірам бачылася яна рэдка. Рагнеда жыла з дзецьмі ў вёсцы Лыбедзь каля Кіева. Аднойчы Уладзімір прыехаў у Лыбедзь і застаўся там начаваць. Вось тады і вырашыла гордая княгіня адпомсціць мужу за той здзек з яе Айчыны, з яе сям'і, з яе самой. Калі князь спаў, Рагнеда з кінжалам у руцэ падышла да ягонага ложка, каб забіць яго. Але нялёгка жанчыне падняць зброю на чалавека. Так і не ўдарыла яна мужа. Уладзімір прачнуўся і перахапіў Рагнедзіну руку з кінжалам. На пытанне, чаму яна хацела яго забіць, Рагнеда адказала: «За тое, што бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў і не любіш ні мяне, ні сваіх дзяцей». На расправу ён аказаўся і цяпер хуткі: загадаў княгіні апрануцца ў шлюбнае ўбранне і рыхтавацца да смерці. Пасля таго, як Уладзімір выйшаў з пакоя паклікаць слуг, Рагнеда дала меч старэйшаму сыну Ізяславу і мовіла: «Калі бацька прыйдзе сюды, скажы яму: «Ты не адзін тут». Ізяслаў так і зрабіў. Калі Уладзімір вярнуўся, Ізяслаў засланіў з мячом у руках маці: «Ты не адзін тут». Гэтага князь не чакаў, ён збянтэжана адказаў: «А хто ведаў, што ты тут?» Учынак Ізяслава выратаваў Рагнеду. На баярскай радзе баяры параілі Уладзіміру: «Ужо не забі яе дзеля дзіцяці гэтага, але аднаві Айчыну яе і дай ёй з сынам сваім». Гісторык С. Анінскі лічыў, што Ізяслаў «не мог быць сынам Уладзіміра». Гэтым, пэўна, і тлумачыцца, што Ізяслаў быў пазбаўлены права на кіеўскі пасад і стаў полацкім князем. Уладзімір саслаў Рагнеду і Ізяслава на мяжу Полацкага княства, дзе пабудаваў для іх горад Ізяслаў, вядомы цяпер як Заслаўе.

Хоць летапісы і маўчаць, але можна думаць, што пакуль Ізяслаў не вырас, Рагнеда ад яго імя кіравала адноўленым Полацкім княствам. Але лёс рыхтаваў княгіні новае выпрабаванне. У 988 годзе Уладзімір з палітычных меркаванняў прымае хрысціянства і жэніцца на сястры візантыйскага імператара Васіля ІІ, Ганне. Давялося адмовіцца ад наложніц і жонак. Уладзімір шле Рагнедзе загад: «Зараз, хрысціўшыся, павінен я мець адну жонку, а ты выберы сабе мужа з маіх князёў і баяраў, каго пажадаеш». І на гэты раз Рагнеда аказалася духоўна больш прыгожай і высакароднай за свайго былога мужа. Горда адказала яму: «Царыцай я была, царыцай і застануся, і нічыёй рабыняй не буду. А калі ты хрысціўся, дык я буду нявестай Хрыстовай». У гэтых словах — няскораны дух Рагнеды. Вымушаная грубай сілай стаць жонкай нялюбага, абражаная ім, яна захавала свой жаночы гонар, не стала яго рабыняй, не даравала яму ні забойства бацькі, ні спусташэння Айчыны, ні здзеку над сабой. І зараз не збіралася паслухмяна выконваць Уладзіміраву волю. Але Уладзімір мог гвалтам аддаць яе за аднаго са сваіх баяраў, і таму, каб пазбегнуць гэтага, Рагнеда прымае манаства. Яна заснавала пад Ізяслаўлем першы ва Усходняй Еўропе жаночы манастыр, дзе і пражыла 12 гадоў пад імем Анастасіі. Адсюль, з Рагнедзінага манастыра, і пачало пашырацца на Беларусі хрысціянства.

На парозе XI стагоддзя Рагнеда памерла. Паводле падання, яе пахавалі на гары паўвострава Перавоз, паміж вусцем рэчкі Ушы, якая ўпадае ў возера Дрысу, і вытокам рэчкі Дрысы, што выцякае з яго. На гэтым месцы нібыта быў забіты князь Рагвалод. Памяць пра гордую полацкую княгіню перажыла стагоддзі. Яшчэ ў XIX стагоддзі этнографы запісвалі паданні пра яе. Ці не гэта яскравае сведчанне народнай любові да Рагнеды?

## ІЗЯСЛАЎ (?—1001)
### КНЯЗЬ ПОЛАЦКІ



Кароткім было жыццё Рагнедзінага сына Ізяслава. Пэўна, з таго часу, як абараніў ён сваю маці ад раз'юшанага князя Уладзіміра, не браў ён больш у рукі меч. Выхаваны Рагнедай у хрысціянскіх традыцыях, ён вызначаўся мяккасцю і клапаціўся пра пашырэнне хрысціянства і асветы. Ці не першым князем-кніжнікам на Русі быў Ізяслаў. У 1001 годзе Ізяслаў памёр. І хоць не здзейсніў ён вялікіх спраў, але летапісец палічыў неабходным адзначыць ягоныя высакародныя рысы: «Бысть жа сий князь тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин иноческий, и прилежаўе прочитанию божественных писаний, и отвраўаяся от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпелив». І калі сыны Уладзіміра пасля ягонай смерці залілі Русь крывёю, змагаючыся за ўладу, калі пакінулі яны крывавы след, дык хрысталюбівы і чалавечны Ізяслаў пакінуў... пячатку з надпісам — першы помнік усходнеславянскага пісьменства. А яшчэ нарадзіліся ў яго два сыны — Усяслаў і Брачыслаў, ад апошняга з якіх і пайшоў род пагрозлівых і мужных крыўскіх князёў, уладароў адной з дзяржаў на старажытнай беларускай зямлі Полацкага княства.

## СВЯТАПОЛК (?—1019)
### КНЯЗЬ ТУРАЎСКІ. ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КІЕЎСКІ.



Незвычайнае ў лёсе гэтага чалавека пачалося пасля ягонай смерці. Воляю заказчыкаў «Аповесці мінулых гадоў» — кіеўскіх князёў Святаполка Ізяславіча і Уладзіміра Манамаха — Святаполк быў аб'яўлены забойцам сваіх братоў Барыса, Глеба і Святаслава. Так і ўвайшоў ён у гісторыю як хцівы забойца сваякоў, названы летапісцамі Акаянным.

Гісторыкі лічаць, што Святаполк быў сынам кіеўскага князя Яраполка. Вось, пэўна, таму Уладзімір і адправіў яго падалей ад сябе ў Тураў. Малалетні князь рос пад апекай епіскапа. Пасталеўшы, Святаполк стаў праводзіць палітыку на адасабленне Тураўскага княства ад Кіева. Святаполк ажаніўся з дачкой кракаўскага князя Баляслава і заручыўся яго падтрымкай. Да Святаполка ад Баляслава разам з яго дачкой прыехаў і яе духоўнік біскуп Рэйнберн. Прыбыў ён з «асобым» заданнем: падрыхтаваць змову супраць Уладзіміра, скінуць яго і пасадзіць на вялікакняжацкі пасад Святаполка. Уладзімір даведаўся пра намеры тураўскага князя і выклікаў яго да сябе. Святаполк разам з жонкай апынуўся ў няволі. А біскуп «заўчасна» памёр. Заступіўся за Святаполка Баляслаў. Уладзімір, каб не сварыцца з польскім уладаром, выпусціў Святаполка і ягоную жонку на волю. А праз які час, 15 ліпеня 1015 года, Уладзімір памёр. Паводле «Аповесці мінулых гадоў», Святаполк захапіў кіеўскі пасад і паслаў забойцаў да сваіх братоў Барыса, Глеба і Святаслава. І толькі наўгародскі князь Яраслаў пайшоў з войскам супраць Святаполка і перамог яго. Святаполк уцёк у Польшчу да цесця. У 1018 годзе яны выгналі Яраслава з Кіева — вялікім князем кіеўскім стаў Святаполк. Пасля таго, як Баляслаў вярнуўся ў Польшчу, Яраслаў з наўгародскім войскам рушыў на Кіеў. Яраслаў зноў перамог. Святаполк уцёк у Польшчу, дзе і памёр. Так распавядае «Аповесць...». І доўгі час гісторыкі бралі на веру аповяд яе аўтара Нестара. Стагоддзямі імя Святаполка ганілася як імя забойцы і зладзея. Мала хто сумняваўся, што ён пасля смерці быў абылганы і на яго спісалі злачынства таго, хто ў «Аповесці...» выступіў як барацьбіт за справядлівасць — Яраслава Мудрага. Але хроніка Цітмара і «Сага аб Эмундзе» інакш распавядаюць аб гэтых падзеях. Паводле Цітмара, Святаполк, вызваліўшыся з вязніцы, уцёк да Баляслава. «А «Сага...» распавядае, што пасля Уладзіміравай смерці на кіеўскі пасад сеў конунг «Бурыслаў» — Барыс. Верагодна, што менавіта ён і арганізаваў забойства князя Святаслава, які ўцякаў у Венгрыю прасіць дапамогі ў венгерскага караля. А забіць князя Глеба мог загадаць Яраслаў, які баяўся, што той падтрымае Барыса. Такім чынам, Яраслаў і Барыс засталіся адзін на адзін. Аб іх барацьбе і распавядае «Сага аб Эмундзе» — ворагу, які служыў конунгу Яраславу. Яраслаў разбіў Барыса і завалодаў Кіевам. А Барыс сабраў войска з печанегаў і ў 1017 годзе паспрабаваў штурмам заваяваць Кіеў, але яго напаткала няўдача. Барыс зноў сабраў войска з печанегаў і рушыў на Кіеў. На вайсковай нарадзе Эмунд спытаўся ў Яраслава: «Але як жа быць, пане, калі мы дабяромся да конунга (Барыса. — **В. Ч.**), — забіць яго ці не? Бо ніколі не будзе канца варожасці, пакуль вы абодва жывыя». І вось адказ Яраслава: «Не стану я ні заклікаць людзей да бою з Барысам конунгам, ні вінаваціць, калі ён будзе забіты». Тым самым Яраслаў умываў рукі: нібыта і не загадваў забіць брата, але і не забараняў гэта зрабіць. Эмунд з варагамі пракраўся ў варожы лагер і ноччу напаў на шацёр Барыса і забіў яго. Яраслаў толькі пачырванеў, калі яму паказалі адсечаную галаву Барыса. І гэтая маленькая дэталь, якая не выпала з поля зроку аўтара сагі, які быў удзельнікам тых падзей, яшчэ раз пераконвае нас у праўдзівасці яго апавядання. Войска Барыса, пазбаўленае свайго правадыра, «разышлося ў нязгоднасці».

Але яшчэ рана было Яраславу святкаваць перамогу. Супраць яго ў 1018 годзе выступіў Святаполк пры падтрымцы Баляслава. На Валыні каля Буга саюзнікі разбілі Яраслава. Кіеў дастаўся Святаполку. Новаму вялікаму князю міжволі давялося трываць залежнасць ад Баляслава. Ён пусціў польскае войска ў гарады на пракорм. Мацнеў народны гнеў. І Святаполк загадаў: «Колькі ёсць палякаў па гарадах, забівайце іх». Заклік падхапілі. Супраць палякаў успыхнула паўстанне. Баляслаў, захапіўшы каштоўнасці з княжацкай скарбніцы і ўзяўшы ў палон княгінь Прадславу і Дабрагневу, пакінуў Кіеў. А без ягонай падтрымкі Святаполк так і не перамог Яраслава. Разбіты ім Святаполк уцёк у Польшчу. Калі верыць аповяду Нестара, дык на Святаполка «напаў д'ябал і расслабілі ўсё цела яго, і не мог ён сядзець на кані, і неслі яго на насілках». Не, не д'ябал зваліў з ног Святаполка. Верагодна, яго атруцілі. А па чыйму загаду гэта зрабілі, здагадацца няцяжка — па Яраслававу. Святаполк так і не ачуняў. Недзе ў Польшчы ён памёр. Яраслаў жа доўгія гады ўладарыў на Русі. І не давалі яму спакою размовы, што незаконна ён ускняжыўся ў Кіеве, па трупах сваіх братоў падняўся на вялікакняжацкі пасад. Вось і быў Святаполк названы віноўнікам забойства Барыса і Глеба, якіх праваслаўная царква залічыла да святых. Гэты міф Нестар занёс у летапіс пры ўнуках Яраслава, якім важна было абгрунтаваць свае законныя правы на кіраванне Руссю.

Творцы гэтага міфа спадзяваліся, што тайнае не стане яўным. І пралічыліся. Бо было сказана ў святым пісьме: «Няма нічога тайнага, што не выявілася б, і ўкрытага, аб чым не даведаліся б». Як бачым, час апраўдаў Святаполка.

**Вітаўт ЧАРОПКА.**

**(Працяг будзе.)**

